# «Сустрэчы на святкі»






**Адміністрацыя Першамайскага раёна сталіцы і Дом міласэрнасці Мінскай епархіі зладзілі калядныя святы для дзяцей «Сустрэчы на святкі». Дзед Мароз прыляцеў на верталёце проста на святочную пляцоўку, палала вялікае вогнішча, былі цікавыя гульні, падарункі, выступленні акцёраў. Папраўдзе сказаць, незабыўнае відовішча.**

# Журналістцы пагражаюць расправай

У ноч на 11 студзеня карэспандэнтка «БДГ» па Гомельскай вобласці Ірына Макавецкая атрымала ананімную тэлефонную пагрозу. Невядомы тэлефанаваў ёй дахаты некалькі разоў, патрабуючы, каб Ірына перастала займацца журналістыкай, і пагражаючы ў адваротным выпадку «пахаваць» яе. Журналістцы ўдалося зрабіць дыктафонны запіс аднаго з тэлефанаванняў.

Як распавяла Ірына Макавецкая прэс-службе ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», малады мужчынскі голас назваўся «прадстаўніком беларускага народа». Ён груба абражаў журналістку, звінавачваючы яе ў «нелюбові да прэзідэнта і беларускага народа», і запэўніваў, што, нягледзячы на яе намаганні, «трэці прэзідэнцкі тэрмін і рэферэндум будуць», а «БДГ» засталіся «лічаныя дні».

Падчас аднаго з тэлефанаванняў невядомы паведаміў, што дзейнічае па даручэнні нейкіх «двух чалавек». Ён прызнаўся, што яму асабіста «не спадабалася» публікацыя І.Макавецкай у «БДГ», прысвечаная новаму беларускаму прэм'ер-міністру Сяргею Сідорскаму. Ананім таксама папярэдзіў, што карэспандэнтка «зачапіла чужыя грошы» ў іншай публікацыі, якая тычылася вінаробчага завода «BST». (Па словах І.Макавецкай, у артыкуле, які выйшаў пры канцы снежня, сапраўды фігуравалі вялікія сумы грошай, а ў якасці аднаго з удзельнікаў канфлікту згадваліся структуры КДБ).

У адказ на выказаныя ананімам прэтэнзіі да «БДГ» Ірына параіла яму чытаць замест яе «Советскую Белоруссию». Пасля гэтага суразмоўца кінуў фразу, што «СБ» ён атрымлівае «незалежна ад яго жадання». Ён некалькі разоў паўтарыў патрабаванне, каб Ірына спыніла журналісцкую працу і з'ехала з краіны. Раззлаваўшыся на нейкую з'едлівую рэпліку І.Макавецкай, ананім паабяцаў «пайсці ў сабор і паставіць па ёй свечку за ўпакой» і «пахаваць» яе.

Пасля 4-га запар званка журналістка звязалася з міліцыяй і папрасіла ў выпадку паўторнага тэлефанавання зафіксаваць, адкуль ідзе сігнал. Аднак міліцыянты заявілі, што гэта тэхнічна немагчыма, і параілі напісаць заяву па месцы жыхарства. Пасля гэтага тэлефанаванняў больш не паступала. 11 студзеня Макавецкая падала заяву ў 2-е гомельскае аддзяленне міліцыі. Па словах журналісткі, яе інцыдэнт трапіў у аператыўную зводку, і яна збіраецца дамагацца яго расследавання.

З улікам таго, якія публікацыі згадваў у размове невядомы, а таксама яго добрай інфармаванасцю аб падрабязнасцях судовых разбораў журналісткі са следчым Цераховічам па «справе ўрачоў», І.Макавецкая не выключае, што ананім з'яўляецца супрацоўнікам нейкіх сілавых структур. «Іншая рэч – што гэта: чыясьці самадзейнасць альбо санкцыянаваная «зверху» акцыя?» – пытаецца журналістка.

# Грузія: Ружа на марозе

У Грузіі пануе аптымізм. Але ён можа быць недаўгавечны. Перад яе новым прэзідэнтам Міхаілам Саакашвілі стаіць задача, якая можа прывесці да суму і больш вопытнага палітыка: яму прыйдзецца мець справу з вельмі карумпаваным і неэфектыўным дзяржаўным апаратам. Гэты апарат нагэтулькі неэфектыўны, што, згодна з ацэнкамі, на чорны рынак прыпадае 60 адсоткаў усёй дзейнасці ў краіне. Сярэдняя зарплата складае прыкладна 20 даляраў, пенсія – 7 даляраў. На Грузіі вісіць цяжар знешняга доўгу ў памеры 1,75 мільярда даляраў, і яна шматкроць не здолела выканаць умовы Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банку, неабходныя для яго памяншэння. Краіна атрымала болей за мільярд даляраў дапамогі ад Злучаных Штатаў Амерыкі, больш на душу насельніцтва, чым любая іншая краіна, акрамя Ізраіля, аднак яе прамысловасць, турызм, сельская гаспадарка знаходзяцца ў заняпадзе.

Апрача гэтага, ёсць яшчэ і праблемы, звязаныя з існаваннем самой дзяржавы. Тэрытарыяльнай цэласнасці Грузіі пагражаюць прыхільнікі аўтаноміі з трох рэгіёнаў, некаторыя з іх падтрымліваюцца Масквой. Нясе пагрозу яе суверэнітэту і прысутнасць на яе тэрыторыі расійскіх і амерыканскіх войскаў. Расійскія войскі засталіся яшчэ з савецкіх часоў, ды і чачэнская вайна таксама часта перасякае грузінскую мяжу. Амерыканскія «зялёныя берэты» здзяйсняюць контртэрарыстычную падрыхтоўку грузінскіх салдат. Аднак гэтыя ж самыя салдаты могуць быць выкарыстаны для аховы амерыканскіх інтарэсаў, датычных нафтаправоду, які будзе праходзіць праз усю Грузію і злучыць у 2005 годзе Каспійскі басейн і Захад.

Нельга сказаць і аб адсутнасці праблемаў і ў самога Саакашвілі. Яго нацыяналізм можа адштурхнуць этнічныя меншасці і ўскладніць усталяванне сувязяў з рэгіёнамі. Яго шчыльныя стасункі з Злучанымі Штатамі і яго абяцанне зачыніць расійскія ваенныя базы не абяцаюць яму добрага стаўлення Масквы.

Паколькі гэтак званая «бархатная рэвалюцыя» была смадэлявана на ўзор сербскай рэвалюцыі 2000 года, дык будзе шкада, калі Грузія пасля аднаго-двух гадоў невыкананых абяцанак і паступовага расчаравання народа прыйдзе пад кіраўніцтвам Саакашвілі да заняпаду, аналагічнага сербскаму.

Пэўную ролю прыйдзецца сыграць Еўрапейскаму Саюзу, а таксама Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе і міжнародным фінансавым інстытутам. Аднак галоўная нагрузка павінна легчы на Злучаныя Штаты, якія шмат зрабілі для змены рэжыму. У рэшце рэшт, менавіта Вашынгтон выбіў крэсла з-пад Шэварднадзе, дагледзеў і ўскосна фінансаваў грузінскую апазіцыю, менавіта амерыканскімі стратэгічнымі, ваеннымі і нафтавымі інтарэсамі быў прадыктаваны ўвесь працэс. Спыненне фінансавай падтрымкі пасля дасягнення пэўнага выніку, што характэрна для ўмяшальніцтва ЗША ў справы іншых дзяржаваў у мінулым, не павінна паўтарыцца. Проста зрабіць караля недастаткова. Значэнне мае толькі пабудова новай дзяржавы. А гэта патрабуе вялікіх сродкаў.

**The Guardian**

# Уласным шляхам, без даглядчыкаў

Днямі прадстаўнікі вядомай у краіне незарэгістраванай маладзёвай арганізацыі «Малады Фронт» абвесцілі пра стварэнне новага выбарчага блоку, што мае на мэце дамагацца перамогі на парламенцкіх выбарах.

Адрозніваецца ад ужо створаных кааліцый «5+» і «Свабодная Беларусь» новы блок будзе тым, што аб'ядные маладых лідэраў, гатовых «працаваць і змагацца». «Маладая Беларусь», а менавіта такую назву мае ініцыятыва, сваім узнікненнем у немалой ступені абавязана дзеячам старэйшага пакалення. Праблема «бацькоў і дзяцей» у беларускай апазіцыі аказалася невырашальнай. На прэс-канферэнцыі з нагоды стварэння блоку маладафронтаўцы выступілі з рэзкай крытыкай сваіх «старэйшых таварышаў». «Увесь наш імпэт мы змарнавалі на тое, каб перажываць і глытаць іхнія паразы. Больш такога не будзе, мы ідзем на выбары, каб перамагаць», – сказаў адзін з лідэраў «Маладога Фронту», дэпутат мясцовага савета г. Масты Алесь Зарэмбюк. Канешне, тое, што партыйныя лідэры не змаглі утрымаць на сваім баку моладзь, можна лічыць стратэгічнай памылкай. Сілы, запал, энтузіязм, гатоўнасць да працы, адданасць беларускім каштоўнасцям – тое, чым хваляцца малады я.

Аднак, што канкрэтна хаваецца за выбарчым блокам «Маладая Беларусь», пакуль бачыцца цьмяна. На пытанне, ці далучацца да яго такія арганізацыі, як «Зубр», «Маладая грамада» і іншыя прыкметныя палітычныя сілы, канкрэтнага адказу няма. Невядомая праграма блоку, на якое прадстаўніцтва ў парламенце разлічваюць яго стваральнікі, а таксама на якія сродкі будзе праводзіцца кампанія. Без гэтакіх адказаў «Маладая Беларусь» – абстракцыя.

Кіраўніцтва «МФ» (пакуль адзіная канкрэтная структура, якая актыўна падтрымлівае сваю ўласную ініцыятыву) намякае на наяўнасць фінансавай падтрымкі з боку некаторых беларускіх колаў, зацікаўленых у палітычных зменах: «людзі пакуль ня хочуць «свяціцца».

Стваральнікі абвесцілі, што зараз праводзяць кансультацыі з 40 маладзёвымі лідэрамі, а таксама з непартыйнымі палітыкамі старэйшага пакалення. Іх імёны названыя не былі. Зараз блок ужо налічвае 27 чалавек, якія маюць намер выстаўляць свае кандыдатуры. Мэта – каб такіх набралася 80. Сярод гатовых: Андрусь Мялешка, кіраўнік беларускага аддзялення «Міжнароднай Амністыі»(Горадня), прадпрымальнік Алесь Пікула (Баранавічы), Яўген Скочка (Гомель), Алесь Зарэмбюк (Масты). Павел Севярынец таксама плануе балатавацца.

Выбарчая кампанія ў Беларусі непрадказальная. Таму лідэры агаворваюцца, што «разумеюць іх умоўнасць» і «не маюць ілюзіяў». Але маладафронтаўцы спасылаюцца на свой багаты вопыт, якому прадстаўнікі іншых партыяў, па словах берасцейскага старшыні «МФ» Сяржука Бахуна, маглі б толькі пазайздросціць. Менавіта набыццё гэтага вопыту, а дакладней, удзел прадстаўнікоў «Маладога Фронту» ў выбарах прэзідэнта расейскага Башкартастана, выклікала крызіс у і без таго праблемных стасунках «МФ» з «Партыяй «БНФ». Вынікам крызісу стала выключэнне актывістаў «МФ» з партыі.



Нягледзячы на канфлікт, было абвешчана пра папярэднюю «джэнтльменскую дамову» «Маладой Беларусі» з іншымі дэмакратычнымі сіламі. Сутнасць дамовы ў тым, што прадстаўнікі «Маладой Беларусі» не будуць крытыкаваць сваіх суперніказ з дэмакратычных кааліцыяў, а ў другім туры, у выпадку іх перамогі, прапануюць сваю падтрымку.

«Альтэрнатыва без цяжару былых паразаў» – так Павел Севярынец назваў палітычную падставу стварэння маладзёвага выбарчага блоку. Парламенцкія выбары сталі штуршком для нядаўніх палітычных пераўтварэнняў у Грузіі. Да ўлады там прыйшоў самы малады ў гісторыі краіны прэзідэнт. Гэта, на думку Севярынца, гістарычны знак для нас, прыклад пераадолення «постсавецкага сіндрому». У Беларусі шануюць тых, хто «за маладых». «Менавіта на гэтай хвалі прыйшоў да ўлады Аляксандр Рыгоравіч,» – зазначыў старшыня «МФ».

Застаецца толькі дадаць, што кампаніяй парламенцкіх выбараў распачынаецца палітычны сезон 2004–2006, які ўключае ў сябе і выбары прэзідэнта. Каму ў гэтым сезоне будзе належаць апошняе слова – найвялікшая інтрыга найноўшай гісторыі Беларусі.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Шчэмяцца да ўрадавай рэзідэнцыі

*Багатаму і чорт люльку калыша (народная прымаўка)*

Гэтымі днямі ў Мінску знішчаецца яшчэ адзін помнік – старая двухпавярховая камяніца, акружаная садам, якая стаіць насупраць амбасады Польскай Рэспублікі, у некалькіх кроках ад Дома літаратара. Мала хто з сучасных мінчукоў ведае, што дом № 7 па вул. Румянцава з'яўляецца помнікам гісторыі і архітэктуры.

Гэты дом быў пабудаваны ў 1949 годзе паводле Пастановы Савета Народных Камісараў Беларускай ССР і Цэнтральнага Камітэта КП(б) Беларусі № 1139–295 ад 4 жніўня 1945 года «Аб увекавечанні памяці народнага паэта Беларусі Янкі Купалы». Пастанове падпісалі старшыня СНК П.Панамарэнка і сакратар ЦК М.Кісялёў. У пастанове асобным пунктам было запісана «пабудаваць у Мінску дом для сям'і Янкі Купалы».

Праектаванне і будаўніцтва дома вялося згодна з генеральным планам забудовы праспекта імя Сталіна. Сучасны дом № 7 апынуўся на тэрыторыі квартала, абмежаванага вуліцамі Румянцава, Фрунзе, Захарава і праспектам Скарыны. Дарэчы, увесь ансамбль праспекта Скарыны зараз унесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь і знаходзіцца пад аховай дзяржавы як унікальны прыклад горадабудаўніцтва і архітэктуры эпохі сацыялістычнага рэалізму.

Яшчэ ў 2002 годзе Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры прааналізаваў сітуацыю, якая склалася вакол ансамбля плошчы Перамогі ў Мінску, і канстатаваў, што згаданы вышэй квартал «уяўляе сабой закончаны архітэктурны твор, які з'яўляецца, у сваю чаргу, часткай ансамбля плошчы Перамогі – шэдэўра горадабудаўнічага мастацтва сярэдзіны 20 стагоддзя. Узвядзенне новых аб'ёмаў паміж дамамі разбурае існуючую прасторавую кампазіцыю і вядзе да страты адметных вартасцяў гісторыка-культурных каштоўнасцяў».

У гэтым жа годзе дом № 7 быў набыты СП «Група МБЛ-Бел» ТАА, прычым новага ўласніка гістарычны будынак ніколькі не цікавіў. Як заявілі кіраўнікі фірмы, «нам была патрэбна плошча, якую ён займаў». Мінгарвыканкам на пачатку 2003 года даў дазвол гаспадарам будынка на распрацоўку праекта будаўніцтва на тэрыторыі згаданага вышэй квартала новага шматкватэрнага жылога дома з падземнай аўтастаянкай і фітнесцэнтрам на першым паверсе. Гэты элітны жылы дом запланаваны якраз на месцы дома сям'і Янкі Купалы па вул. Румянцава. Праект быў распрацаваны ТАА «Канцэпт ПРАЕКТ» (галоўны архітэктар праекта А.Канцараваў).

Пры гэтым Дэпартамент па ахове спадчыны раптам кардынальна памяняў сваё стаўленне да згаданага гістарычнага квартала, які ўваходзіць у ансамбль плошчы Перамогі, і з самага пачатку быў не супраць знішчэння дома № 7.

Першымі ў абарону мемарыяльнага будынка выступілі жыхары навакольных дамоў. У сакавіку 2003 года яны накіравалі калектыўныя звароты спачатку на імя тады ўжо былога галоўнага архітэктара горада Мінска А.Чадовіча, а потым – у іншыя дзяржаўныя інстанцыі. Быў нават і адпаведны зварот дэпутата Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь А.Красуцкага. Гэтыя матэрыялы былі накіраваны Мінгарвыканкамам у канцы сакавіка 2003 года ў Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны «для ўліку меркавання жыхароў пры разглядзе дакументацыі па размяшчэнні аб'екта».

Адказ на ўсе гэтыя звароты падрыхтаваў намеснік дырэктара дэпартамента І.Чарняўскі. Дарэчы, у адказе ідуць шматлікія спасылкі на асобныя артыкулы Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», шмат разоў падкрэсліваецца неабходнасць захавання помнікаў гісторыі і культуры, пра іх ахоўныя зоны, неабходнасць збераження асяроддзя каштоўнасцяў, але няма ніводнага слова пра неабходнасць захавання канкрэтнага помніка гісторыі і культуры.

Насамрэч, Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны нават і не планаваў нічога рабіць па выратаванні унікальнага помніка. Двума лістамі ад 4 і 25 чэрвеня 2003 года ён цалкам узгадніў «архітэктурны праект «Шматкватэрны жылы дом з падземнай аўтастаянкай і фітнес-цэнтрам на 1-м паверсе па вул. Румянцава» на месцы разбураемага жылога дома № 7 па вул. Румянцава ўзгоднены і рэкамендаваны для рэалізацыі». Вось як пракаментаваў гэтае рашэнне дырэктар згаданага Дэпартамента В.Абламскі: «Навукова-метадычны савет даў дабро на знос гэтых дамоў. Яны вызначанай каштоўнасці не маюць, былі пабудаваны ў пэўны час для нейкіх іншых мэтаў. Гэта не музеі - звычайнае жыллё...Пагледзелі мастацкую частку [дома] па ўнясенні яго ў спіс. Зместу пэўнага няма, а горадабудаўнічая сітуацыя дазваляе размясціць аб'ём дома, пляцоўкі. У нас, у Мінску, цеснавата...» Калі ж паўстала пытанне аб неабходнасці ўключэння ў дзяржаўныя спісы помнікаў мемарыяльнага дома сям'і Янкі Купалы, дырэктар дэпартамента рашуча адказаў: «Уносяць зацікаўленыя бакі, Мінгарвыканкам. Я ж не магу сам унесці па ўласнай ініцыятыве...».

У гэты ж час на абарону помніка выступіў шэраг грамадскіх структур. У першую чаргу Саюз беларускіх пісьменнікаў і Таварыства беларускай мовы імя Скарыны, якія падрыхтавалі афіцыйныя прапановы аб уключэнні дома № 7 па вул. Румянцава ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь. Таварыства аховы помнікаў таксама звярнулася ў Міністэрства культуры з прапановай аб уключэнні ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў згаданага дома № 7. Гэта прапанова была зарэгістравана Міністэрствам культуры 5. 09. 2003 года пад № 2945. Дарэчы, паводле дзеючага заканадаўства, з моманту рэгістрацыі Міністэрствам культуры прапановы аб наданні статусу гісторыка- культурнай каштоўнасці дому № 7 па вул. Румянцава на гэты аб'ект цалкам распаўсюджваюцца патрабаванні дзеючага заканадаўства і ён знаходзіцца пад дзяржаўнай аховай.

Мемарыяльная і культурная каштоўнасць гэтага помніка была вызначана заключэннем Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Падкрэсліваецца, што ў гэтым будынку жылі родныя і блізкія Янкі Купалы, у тым ліку яго ўдава Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, Заслужаны дзеяч культуры БССР. Тут пастаянна бывалі выдатныя дзеячы мастацтва і культуры Беларусі. «У гэтым доме, дзе жыла Ул. Ф. Луцэвіч, адбывалася станаўленне сённяшняга музея Янкі Купалы. На рабочым сталe Уладзіславы Францаўны нараджалася новая экспазіцыя. Прыходзілі працаваць да Уладзіславы Францаўны Янка Брыль, Валянцін Таўлай, Алесь Александровіч і інш...».

Акрамя таго, дом № 7 па вул. Румянцава з'яўляецца помнікам архітэктуры. Ён быў пабудаваны паводле генеральнага плана забудовы галоўнага праспекта сталіцы Беларусі, вельмі ўдала ўвайшоў у ансамбль сучаснай плошчы Перамогі і вызначаецца адзінствам архітэктурна-мастацкай задумы. На думку вядомага даследчыка гісторыі архітэктуры Вячаслава Чарнатава, дом № 7 па вул. Румянцава вызначаецца выдатнымі архітэктурнымі якасцямі. У другой палове 1940-х гадоў паводле спецыяльнай пастановы ўрада, двум архітэктарам, будучым народным архітэктарам СССР і акадэмікам Акадэміі архітэктуры СССР Уладзіміру Каралю і Сяргею Сперанскаму была даручана распрацоўка шэрагу праектаў дамоў для дзяржаўных служачых, творчай інтэлігенцыі і выдатных дзеячаў культуры. На сённяшні дзень з гэтых будынкаў захаваліся адзінкі. У дэкаратыўным аздабленні фасаду гэтага дома выкарыстаны асобныя архітэктурныя дэталі, характэрныя толькі для творчых пошукаў Уладзіміра Караля.

Атрымаўшы прапановы аб наданні дому № 7 статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці паводле артыкула 18 Закона «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», дэпартамент Міністэрства культуры быў абавязаны неадкладна афіцыйна давесці інфармацыю аб гэтым да ўладальніка будынка, а таксама да Мінгарвыканкама і забяспечыць ахову помніка. Гэтага зроблена не было, што з'яўляецца грубым парушэннем Закона аб ахове помнікаў.

Навукова-метадычная рада не разглядала пытанне аб ахове дома сям'і Янкі Купалы, афіцыйна прапановы ўсіх грамадскіх структур, якія выступалі ў абарону помніка, не былі нават прыняты да разгляду. Пры гэтым дэпартамент затрабаваў у якасці абавязковага абгрунтавання каштоўнасці помніка цэлы шэраг дакументаў, у прыватнасці павінны былі быць прадстаўлены: заява, уліковая картка помніка, адносіны ўласніка і рашэнне Мінгарвыканкама (?!), выкапіроўка з генеральнага плана горада з прывязкай аб'екта, падрабязная фотафіксацыя, гістарычная даведка і гэтак далей.

Усе гэтыя патрабаванні цалкам супярэчаць заканадаўству аб ахове помнікаў, таму што прамым абавязкам самога дэпартамента з'яўляецца складанне ўсіх гэтых дакументаў, а таксама вывучэнне гісторыка-культурнай спадчыны, выяўленне і ўлік каштоўнасцяў. Менавіта, на гэтыя мэты павінны вылучацца сродкі з дзяржаўнага бюджэту, а таксама чыноўнікі за гэта атрымліваюць свой заробак. Больш таго, асноўная частка гэтых дакументаў ужо знаходзіцца ў Міністэрстве культуры. У прыватнасці, выкапіроўка з генеральнага плана горада, адносіны ўласніка, а таксама рашэнні Мінгарвыканкама па дадзеным пытанні былі прадстаўлены ў дэпартамент разам з праектам, які прадугледжваў знішчэнне дома № 7 па вул. Румянцава.

Каб канчаткова вырашыць лёс дома сям'і Янкі Купалы па вул. Румянцава № 7, дырэктар Дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны В. Абламскі і яго намеснік І.Чарняўскі разам з чыноўнікамі Мінгарвыканкама 15 кастрычніка 2003 года сабраліся на адмысловую нараду ў кабінеце галоўнага архітэктара г. Мінска А.Чадовіча, на якой было запісана:

*«согласиться с мнением, что производство проектно-изыскательских работ по строительству многоквартирного жилого дома с подземной автостоянкой и фитнес-центром на 1-ом этаже по ул. Румянцева на месте сносимого жилого дома № 7 ведется заказчиком (СП «Группа МБЛ-Бел ООО) в соответствии с установленным порядком...*

*Учитывая, что в жилом доме по ул. Румянцева, 7 до своей кончины (1960 г.) проживала жена Янки Купалы Владислава Францевна Луцевич, заслуженный деятель культуры БССР, поручить комитету архитектуры совместно с заказчиком проработать в дальнейшем вопрос размещения на проектируемом многоквартирном жилом доме с подземной автостоянкой и фитнес-центром на 1-ом этаже по ул. Румянцева на месте сносимого жилого дома № 7 соответствующей информационной доски, отражающей историю дома и его жителей».*

Саламонава рашэнне! Знішчыць помнік, а на яго месцы паставіць мемарыяльны знак. Менавіта гэты пратакол даў падставу Мінгарвыканкаму прыняць канчатковае афіцыйнае рашэнне, якое дазваляе знішчыць помнік. Але здавалася ў такой безнадзейнай сітуацыі ў помніка з'явіўся новы абаронца – міністр культуры Леанід Гуляка. Учасе прамой тэлефоннай лініі з міністрам, якую арганізавала газета «Рэспубліка», ён публічна паабяцаў, што вырашэнне далейшага лёсу дома сям'і Янкі Купалы ён бярэ пад асабісты кантроль і што, калі трэба, паправіць дзеянні сваіх падначаленых.

Але спадзяванні на такое высокае заступніцтва былі марнымі, дом па вул. Румянцава № 7 у першыя дні новага 2004 года пачалі знішчаць. Разабраны дах. Спілаваны стары сад. Толькі дзесьці пад снегам і смеццем у двары ляжыць старая гранітная надмагільная стэла (перанесеная сюды з вайсковых могілак), на якой напісана, што тут спачывае душа Янкі Купалы. Вось такі ёй арганізавалі спачын.

**Антось БРАНКЕВІЧ**



**Вось так руйнуюць дом сям`і Янкі Купалы пад элітнае жыллё з заляй для фітнесу і падземным паркінгам. Адсюль напрасткі да ўрадавай рэзідэнцыі – 100 метраў, [illegible] плошчы Перамогі – 100 крокаў. Самы цэнтр сталіцы**

# Куды паскараецца Беларусь?



**На мінулым тыдні ў чарговай перадачы на Радыё Свабода з цыклю «Экспэртыза Свабоды» аналізавалася калядная прамова Аляксандра Лукашэнкі 7 студзеня ў Сьвята-Духавым Катэдральным саборы ў Мінску. Яна была нязвычная па зьмесьце і часе, і таму выклікае зразумелую цікавасьць.**

Вядоўца – палітоляг Валер Карбалевіч, удзельнікі – галоўны рэдактар інтэрнэт-газэты «Белорусские новости» Аляксандар Класкоўскі і філёзаф Алесь Анціпенка.

**Валер Карбалевіч**: Падчас урачыстага набажэнства ў Сьвята-Духавым Катэдральным саборы ў сераду Аляксандар Лукашэнка выступіў з прамоваю, у якой прагучалі пэўныя заклікі да насельніцтва. Можна нават сказаць, што была выкладзеная нейкая тэзысная праграма для краіны на гэты год. Трэба адзначыць, што кіраўнік дзяржавы заўсёды падчас сьвяткаваньня Раства Хрыстова па праваслаўным календары наведвае Катэдральны сабор і выступае там з прамовай. Але заўсёды гэта былі звычайныя віншаваньні праваслаўных вернікаў зь сьвятам, адзначэньне ролі Царквы ў духоўным жыцьці грамадства. На гэты раз упершыню Лукашэнка выступіў у царкве з такою праграмнаю прамовай. Чым гэта выклікана? І наколькі да месца і да часу такая нерэлігійная прамова?

**Аляксандар Класкоўскі**: Лукашэнку ніколі асабліва не хвалявалі нейкія нюансы рэлігійных дактрынаў, асаблівасьці рытуалаў і інш. Ён заўжды ішоў на альянс з праваслаўнаю царквою выключна з палітычных мэтаў. Кіраўнік дзяржавы разглядае гэтую царкву як апору сваёй улады. І ў дадзеным выпадку гэты экзатычны антураж для такіх лёзунгаў не бянтэжыць яго. Але Лукашэнка быў па-свойму шчыры, бо ён казаў пра тое, што яго ў дадзеным выпадку хвалюе.

А хвалюе яго тое, што ён абвясьціў і паставіў перад урадам задачу выцісьнуць 10% валавога ўнутранага прадукту ў гэтым годзе. Але кіраўнік дзяржавы сам ня ўпэўнены, што гэта атрымаецца, бо рэсурсы сыстэмы амаль вычарпаныя. Тым ня менш, як ён казаў – «хоць потам, хоць крывёю» трэба забясьпечыць гэтыя паказьнікі. А на даляглядзе – культавыя 250 даляраў у 2005 годзе трэба атрымаць. У гэтым годзе адбудуцца пэўныя электаральныя мерапрыемствы, магчыма, зьвязаныя з працягам прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў. А што ў каго баліць, той пра тое і гаворыць.

Ёсьць, магчыма, пэўныя асаблівасьці кіраўніка беларускай дзяржавы, якія вядуць да таго, што любыя мерапрыемствы зь яго ўдзелам, у храме ці ў мастацкай установе, ператвараюцца ў такі, свайго кшталту, партыйна-гаспадарчы актыў.

**Карбалевіч**: Цікавая думка. Калісьці экс-прэм'ер Расеі Чарнамырдзін казаў: «Якую партыю ні будуй, усё роўна атрымліваецца КПСС».Так і тут, які ні адбываецца сход ці мерапрыемства, урэшце ўсё ператвараецца ў партыйна-гаспадарчы актыў.

**Алесь Анціпенка**: Сапраўды, ёсьць нейкая некантэкстуальнасьць у ягонай прамове ў такім месцы і ў такі час. Але, зь іншага боку, вядома, што праваслаўная царква ёсьць адным з інструмэнтаў дзяржаўнай палітыкі. Значная частка праваслаўных вернікаў ёсьць і значнаю часткаю электарату Лукашэнкі. Акрамя таго, здаецца, гэта пачатак унутранай мабілізацыі беларускага рэжыму да выбараў у Палату прадстаўнікоў і магчымага рэфэрэндуму.

**Карбалевіч**: Зьвяртаюць на сябе ўвагу такія тэзы Лукашэнкі: «Наш дабрабыт залежыць ад нас. Гасподзь проста так нічога нікому не дае... Чужое, дарам атрыманае, разбэшчвае чалавека. Ніхто, нічога, ніадкуль нам не прывязе. Усё нечага каштуе. Рана ці позна за гэта давядзецца плаціць. Таму давайце сваімі рукамі з маленькіх цаглінак ствараць свой храм».

Падаецца, што гэтыя пастуляты, прагучалыя ў праваслаўным храме, не зусім стасуюцца з праваслаўнай ідэалёгіяй. Гэта хутчэй пастуляты з пратэстанцкай рэлігіі, з таго, што прынята лічыць элемэнтамі пратэстанцкай этыкі, дзякуючы якой, як лічыцца, капіталізм дасягнуў высокай эфэктыўнасьці ў заходніх краінах. Як бы вы пракамэнтавалі гэты сюжэт з выступу Лукашэнкі?

**Класкоўскі**: Жыцьцё прымушае так гаварыць. Сам Лукашэнка любіць казаць, што ён ідзе ад жыцьця. Зноў хачу падкрэсьліць, што яго мала хвалююць тонкасьці рэлігійных дактрынаў. Усё вызначаецца палітычным момантам. А ён сёньня такі, што рэсурсы папулізму вычарпаныя. І таму гэта такое ненавязьлівае прывучэньне электарату да думкі, што лепей жыць мы ня будзем.

**Анціпенка**: Стасункі з Расеяй становяцца ўсё больш праблематычнымі. І ў гэтых умовах трэба мабілізаваць грамадзтва на выкананьне той задачы, якую Лукашэнка паставіў перад урадам: дасягнуць 10% росту валавога ўнутранага прадукту. І сьвята - гэта добрая нагода зьвярнуцца да шараговага грамадзяніна і ўкласьці яму ў галаву ідэю, што ўсё залежыць ад яго. Акрамя таго, зьявіўся новы чыньнік: набліжэньне да межаў Беларусі Эўразьвязу. Гэта пацягне шэраг эканамічных праблемаў.

У мінулым годзе беларускаму грамадзтву была рэпрэзэнтаваная дзяржаўная ідэалёгія. Але яна вельмі эклектычная, спалучае ў сабе неспалучальныя элемэнты. Таму нічога дзіўнага ў такіх закліках Лукашэнкі я ня бачу.

**Карбалевіч**: Сапраўды, гэтыя заклікі абапіраецца на ўласныя сілы прагучалі ў момант напружаных дачыненьняў з Расеяй. Яшчэ невядомыя цэны на газ у гэтым годзе. І таму натуральным выглядае заклік да насельніцтва рыхтавацца да цяжкага выжываньня ва ўмовах «варожага атачэньня» і эканамічных цяжкасьцяў.

Спадар Анціпенка зьвярнуў увагу на тое, што афіцыйныя ідэалягемы імкнуцца спалучаць вельмі розныя неспалучальныя элемэнты. Гэта адбылося і падчас прамовы ў храме. Лукашэнка аб'явіў гэты год годам якасьці і паскарэньня, таму што без высокай якасьці і паскарэньня мы ня можам вырашыць тых задачаў, якія пастаўленыя перад краінаю. І ўсё гэта нагадвае савецкія лёзунгі. «Пяцігодка эфэктыўнасьці і якасьці» была ў брэжнеўскія часы. А курс на «паскарэньне сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця» быў абвешчаны Гарбачовым у пачатку ягонай дзейнасьці. Хачу нагадаць, што мінулы год быў аб'яўлены «годам навядзеньня парадку ў краіне». Як вы можаце пракамэнтаваць гэта?

**Класкоўскі**: У мяне ўзьніклі тыя ж самыя асацыяцыі. Тут цікавы такі гібрыд пэрыяду «застою» і «перабудовы». Але гэтыя заклікі ня вельмі рэалістычныя. У час Брэжнева заклікі да павышэньня якасьці былі не выканальныя ў межах той сыстэмы. А сёньня мы жывём у постіндустрыяльную эпоху, ідзе спаборніцтва ідэяў. А гэта патрабуе іншай ступені разьняволенасьці мысьленьня. Таму трэба пачынаць зь якасьці кадраў і іх мысьленьня.

Вядома, што пасьля курсу на паскарэньне Гарбачоў абвесьціў перабудову. Наўрад ці такая эвалюцыя магчымая ў Беларусі. Хачу нагадаць, што падчас прэс-канфэрэнцыі перад расейскімі журналістамі 1 жніўня мінулага году Лукашэнка сказаў, што Гарбачоў добры чалавек, але ўсё пазытыўнае, што ён зрабіў, народ забыў, а толькі памятае, што ён развaліў вялікую краіну. А вось я, казаў кіраўнік Беларусі, такім шляхам не пайду. Таму ня будзе ў Беларусі абвешчаная дэмакратызацыя і галоснасьць, як гэта зрабіў Гарбачоў.

**Анціпенка**: Лукашэнка ня першы раз зьвяртаецца да савецкіх лёзунгаў. Тут трэба зьвярнуць увагу, што беларуская гісторыя з 1994 году добра кладзецца на схему савецкай гісторыі. Мы перажылі барацьбу з НЭПам, рэіндустрыялізацыю, рэкалектывізацыю, «справу Прампартыі» (падчас другіх прэзыдэнцкіх выбараў), «справу дактароў». Цяпер, паводле гэтай схемы, мы знаходзімся на этапе позьняга брэжневізму і ранняй гарбачоўшчыны. Далей, напэўна, нас чакаюць два варыянты. Першы варыянт: калі з паскарэньнем нічога не атрымаецца, то нас чакае кароткі пэрыяд андропаўшчыны. Другі варыянт: калі з паскарэньнем атрымаецца, то мы рушым да перабудовы.

**Карбалевіч**: Мне падаецца, перабудова – гэта ня самае горшае для Беларусі. Падсумоўваючы, можна сказаць, што выступ Лукашэнкі падчас урачыстага набажэнства ў Сьвята-Духавым Катэдральным саборы ў сераду выглядае трохі дзіўным у сэнсе і часу, і месца, і зьместу прамовы. Дзіўнай зьяўляецца і тая мяшанка зь лібэральна-пратэстанцкіх пастулятаў і забытых лёзунгаў савецкага часу.

*Радыё Свабода*

# Спадарожнік па Менску

Мінулым годам быў выдадзены мастацкі фотаальбом «Мінск Незнаёмы 1920-1940». Апрача малавядомых фатаграфій аўтары уключылі ў альбом тэкст даведніка «Спадарожнік па Менску» (Выданне Менгарсавету і рэдакцыі газеты «Рабочий»,1930 г.). Ён зьмяшчае шмат цікавых звестак і перадае атмасферу свайго часу. Тут мы друкуем кароткую вынятку з яго, датычную школьнай адукацыі ў сталіцы Беларусі.

## Школы гораду Менску

Школа №1 – Інтэрнацыянальная, 31 – беларуская
Школа №2 – Ленінская, 21 – беларуская
Школа №3 – Міхайлаўская, 4 – беларуская
Школа №4 – Савецкая, 95 – расійская
Школа №5 – Ленінская, 21 – расійская
Школа №6 – Доўгаброцкая, 21 – польская
Школа №7 – Комсамольская, 40 – яўрэйская
Школа №8 – Энгельса, 8 – яўрэйская
Школа №9 – Міхайлаўская, 4 – расійская
Школа №10 – Герцэна, 4 – яўрэйская
Школа №11 – пры Белпэдтэхн., Комсам., 23 – беларуская
Школа №12 – пры БДУ, Землябробчы зав. – беларуская
Школа №13 – Комунальная, 32 – беларуская
Школа №14 – Кошпітальная, 31/5 – беларуская
Школа №15 – Команульная, 31 – беларуская
Школа №16 – Унівэрсытэцкая, 40 (4-годка) – беларуская
Школа №17 – Рэвалюцыйная, 22 – яўрэйская
Школа №18 – Інтэрнацыональная, 31 – яўрэйская
Школа №19 – Лагойскія тракт, 28 – беларуская
Школа №20 – Лекерта, 5 – беларуская
Школа №22 – Падгорны зав., 8 – беларуская
Школа №23 – Савецкая, 126 – беларуская
Школа №24 – Энгельса, 33 (4-годка) – беларуская
Школа №26 – Вул. Вызваленьня, 8 – беларуская
Школа №27 – пры яўпэдтэхн., Савецкая, 44 – яўрэйская
Школа №28 – Комунальная, 31 – яўрэйская
Школа №29 – Паўночна-Заходняя, 10 – беларуская
Школа №30 – Рэволюцыйная, 28 – яўрэйская
Школа №31 – пры БДУ, Землябробчы зав. – беларуская
Школа №32 – Загародная, 1/4 – беларуская
Школа №33 – Міхайлаўская, 4 – польская
Школа №34 – Шырокая, 49 – беларуская
Школа №35 – Стара-Мяшчанская, 15 (4-годка) – беларуская.



**Даваенны выгляд школы № 23 па вул. Савецкай (цяпер – пр. Францішка Скарыны)**

Лічбы паказальныя. У 1930 годзе ў Менску 61% школаў былі зь беларускай мовай выкладаньня, а амаль чвэрць школаў былі габрэйскімі. Расейскія школы былі толькі тры, польскія – дзьве.

Зараз у Мінску няма ніводнай школы, дзе па-беларуску выкладаюцца ўсе дысцыпліны. Беларуская школа проста змененая на расійскую.

# Лужыцкія сэрбы

У Германіі, на мяжы з Чэхіяй, можна заўважыць двухмоўныя шыльды на вакзалах, вуліцах, на ўскрайках вёсак ды мястэчак. Тут маюць радзіму лужыцкія сэрбы. Яны з'яўляюцца нямецкімі грамадзянамі, але іхная родная мова славянская. Лужыца – так гучыць геаграфічны назоў тэрыторыі, што ляжыць уздоўж ракі Шпрэі на паўднёвым усходзе зямлі Брандэнбург ды ва ўсходняе частцы Саксоніі. Калі-нікалі тут можна сустрэць і назву Вэнды. Гэта слова паходзіць з лаціны, а ў сярэднявеччы ім называлі агульна ўсе славянскія плямёны.

Лужыцкія сэрбы ніколі ў мінуўшчыне ня мелі ўласнай дзяржавы. Адкуль жа лужыцкія сэрбы ўзяліся? У VI–VII стагодзьдзі н. э., у часе перасяленьня народаў лужыцкія сэрбы прыйшлі на тэрыторыю сённяшняе Нямеччыны. Потым гэтыя славянскія плямёны былі выціскаены германскімі, пакуль цэнтрам іхнага жыцьця ня сталіся Верхняя Лужыца зь местам Будышын ды Ніжняя Лужыца з цэнтрам Котбус. З XI стагодзьдзя пачынаецца германізацыя Лужыцы, але ў часы сярэднявечча Лужыца была далучаная да Кароны Чэшскай.

Хоць лужычане ня мелі сваёй дзяржавы, але яны праз увесь час свайго існаваньня захавалі ўласную адметнасьць, культуру, мову. Найбольшыя спадзевы атрымаць незалежнасьць у лужычанаў былі пасьля Першай ды Другой сусьветных войнаў. Пасьля Першае вайны вяліся перамовы пра далучэньне Лужыцы да ўзьніклай Чэхаславаччыны. Як Эдвард Бэнэш (другі прэзідэнт ЧС), так і Адольф Чэрны (навуковец-славяніста), які меў кантакты з прадстаўнікамі лужычан на канфэрэнцыі ў Парыжы, успрымалі гэта вельмі сур'ёзна. Але звышдзяржавы не хацелі гэтага аб'яднаньня. Пасьля Другой сусьветнай вайны таксама прапрацоўваліся пытаньні далучэньня Лужыцы да ЧСР ці да Польшчы, але нарэшце Лужыца засталася часткаю Нямеччыны.

Лужыца перастала быць часткаю чэшскай дзяржавы ў 1635 годзе. Але кантакты абодвух народаў не былі парушаныя. У 1728 годзе ў Празе адкрываецца Лужыцкая сэмінарыя, якая становіцца знакамітым цэнтрам лужыцкае адукацыі. Зноў жа чэхі навялі лужычан на ідэю стварэньня адраджэнцкае арганізацыі «Лужыцкасэрбская маціца» (таварыства). Яна была заснаваная ў 1847 годзе.

Арганізаванае супрацоўніцтва паміж двума народамі пачынаецца ў 1907 годзе з узьнікам Чэшска-лужыцкае суполкі. Яшчэ раней у Лужыцу перыядычна наведваецца чэшскі мастак Людвік Куба. Ён занатоўвае народныя звычкі ды традыцыі, строі, лужыцкія песьні. Распавядае Марыя Клара Прхалава з музэю ў Падэбрадах, якая займаецца вывучэньнем жыцьця і творчасьці Людвіка Кубы: «Упершыню Куба прыехаў у Лужыцу ў 1886 годзе. Ён зрабіў некалькі накідаў, запісаў мясцовыя сьпевы, а пасьля выдаў іх. У 1902 годзе прыехаў ізноў, каб стварыць партрэты народнага жыцьця лужычанаў для Сэрбскага дома. Найзнакамiцейшымі былі яговыя вандроўкі ў 1922–1933 гадох, калі ён маляваў усе строі, якія яшчэ тады ў Лужыцы насілі». Куба стаў дакументалістам лужыцкай мінуўшчыны, зь якое можна чэрпаць культурнае багацьце сёньня.

Як цяпер жывуць лужыцкія сэрбы? Сваю народнасьць узнаюць цяпер блізу 60.000 чалавек. Лужыцкае культурнае жыцьцё сканцэнтраванае вакол шэрагу суполак ды задзіночаньняў. Парасонавым ворганам з'яўляецца «Хата» («Domowina»), якая была заснавана яшчэ ў 1912 годзе. Да традыцыйных суполак належыць і ўжо вышэй згаданае Лужыцкасэрбскае таварыства. Які інтарэс да роднае мовы мае маладая генэрацыя? Ёсьць ядро нацыянальнага жыцьця ў ваколіцах Каманца, Будышына ды Ваярыцы. Тут ніколі нямецкая мова не заўладарыла. Дзеці размаўляюць на абедзьвюх мовах. Праблемаю з'яўляюцца мяшаныя шлюбы – залежыць ад таго, якая мова мацней у сям'і, ці з разуменьнем ставіцца да гэтага нямецкі родзіч. Яшчэ Марцін Лютэр казаў, што няма патрэбы перакладаць Біблію на сэрбалужыцкую мову, бо праз 50 год яе ўжо ніхто ня будзе разумець. Але прайшло амаль 500 гадоў, а мова патрэбная ня толькі для літаратуры, але й для штодзённае камунікацыі.

Лужыцкая культура не была заўсёды жаданаю. Сама Маціца за час свайго існаваньня прайшла складаную гісторыю. Упершыню забаранілі лужыцкасэрбскія суполкі фашысты ў 1937 годзе. Адразу па 1945 годзе Маціца была адноўленая і працавала аж да 1949 году. Потым зноў была забароненая. Толькі ў 1989 годзе прыйшла палёгка, і дзейнасьць Маціцы была адноўленая.

Дзеля захаваньня культуры вельмі важнае захаваньне мовы. У Лужыцы сёньня йснуюць сэрбскалужыцкія й двухмоўныя дзіцячыя садкі, пачатковыя школы, гімназіі ды ўнівэрсітэт. У сэрбскалужычыне вяшчае мяйсцовая тэлевізія й радыё, якое перадае ў сэрбскалужыцкай мове навіны, рэпартажы, музыку тры гадзіны штодня. Па прыкладу францускай Брэтані тут дзейнічае праект «Вітай», які скіраваны на малых дзяцей. Ужо ў дзіцячым садку яны вывучаюць сэрбскалужыцкую мову. Пяцьдзесят гадоў таму, пры нацыстах, лужычанам казалі: праз пяцьдзесят гадоў вас ужо ня будзе. Але яны жывыя і захоўваюць сваю мову і культуру.

**Ярамір МАРЭК**
*Інфасэрвіс Беларускага цэнтра ў Празе*






Герб і краявіды Котбуса – аднаго з лужыцкіх горадоў у Германіі

# На абарону мовы не шкадуюць грошай

Еўрапейская камісія мае намер выдаткаваць мільёны еўра дзеля таго, каб прадухіліць пераўтварэнне англійскай мовы дэ-факта ў афіцыйную мову Еўрапейскага Саюза і падтрымаць выкарыстанне французскай.

Да гэтага плана Камісію падштурхнулі французы, занепакоеныя тым, што пасля травеньскага пашырэння ЕС да 25 краінаў мова Мальера можа страціць сваё ранейшае значэнне. Выкарыстанне мовы ёсць у ЕС адным з найбольш адчувальных палітычных пытанняў, паколькі распаўсюджанне англійскай наносіць удар па нацыянальным гонары французаў.

Камісія, якая вядзе масіраваны наём службоўцаў з краінаў, што ўступаюць у ЕС, знайшла, што 83 адсоткі новых супрацоўнікаў валодаюць англійскай мовай і толькі 24 адсоткі – французскай.

На бягучы дзень усе супрацоўнікі Камісіі павінны валодаць роднай мовай і адной з моваў ЕС. Звычайна гэта англійская мова. Камісія вырашыла, што кожны новы супрацоўнік, раней чым атрымаць павышэнне, павінен вывучыць трэцюю мову, звычайна французскую. Камісія будзе аплочваць вывучэнне трэцяй мовы, якая да 2008 года будзе патрэбная прыкладна 5 тысячам супрацоўнікаў. Гэта дадатак да існуючай праграмы ўрада Францыі, які плаціць чыноўнікам ва Усходняй Еўропе за тое, што яны вучаць французскую мову.

Прэс-сакратар урада Францыі заявіў: «Мы павінны абараніць французскую мову. Мы пільна ахоўваем існуючыя лінгвістычныя стандарты ЕС. Саюз 50 гадоў грунтаваўся на французскай мове, і гэты актыў важна захаваць. Мы хочам забяспечыць, каб ЕС меў двухмоўную сістэму».

Сфармуляваны новыя патрабаванні да супрацоўнікаў, якія нацыянальныя ўрады павінны ўхваліць да траўня, калі ў ЕС уступяць новыя сябры. Сума, якую Камісія штогод выдаткоўвае на навучанне мовам, павялічана амаль да 5 мільёнаў еўра. Англійскі член Еўрапарламента ад кансерватараў Крыстофер Хітан-Харыс адрэагаваў гэтак: «Мы абмяркоўваем тут мільённыя асігнаванні на дзівацтвы нацыянальнага гонару. Гэта вар'яцкая ідэя і марнатраўства грошай. Нашто французам ужо так непакоіцца аб сваёй мове, калі яны ўжо адмовіліся ад нацыянальнай валюты?»

Нацыянальны сход Францыі прыняў рашэнне аб захаванні выкарыстоўвання французскай мовы ў структурах ЕС, у якім вітае новыя патрабаванні і абяцае, што французскі ўрад забяспечыць іх выкананне. Нацыянальны сход заявіў таксама, што ў школах ЕС вывучэнне дзвюх замежных моваў павінна стаць абавязковым. Ён заклікаў абмежаваць колькасць нарадаў у ЕС, якія праходзяць без перакладчыкаў, каб перашкодзіць усім удзельнікам карыстацца англійскай мовай, акрэсліла аб'явы ЕС аб прыёме на працу, якія публікуюцца толькі на англійскай мове, дыскрымінацыйнымі і асудзіла Еўрапейскі цэнтральны банк за тое, што на яго сайце пераважае англійская мова.

Але змагацца за захаванне сваёй мовы Францыі ўсё цяжэй. За апошняе дзесяцігоддзе англійская мова атрымала ў структурах ЕС нашмат больш шырокае распаўсюджанне, асабліва пасля таго, як у 1993 годзе ў Саюз уступілі Фінляндыя, Швецыя і Аўстрыя.

Англійская мова з'яўляецца самай папулярнай другой мовай у большасці краінаў Цэнтральнай Еўропы, якія ўступаюць у ЕС. Французская займае чацвертае месца, пасля рускай і нямецкай. Пасля пашырэння колькасць афіцыйных моваў ЕС павялічыцца з 11 да 20, што дужа абцяжарыць службы, якія займаюцца перакладам. Пры 11 мовах колькасць перакрыжаваных перакладаў складае 110, а пры 20 яна дасягне 380, што будзе немагчыма выканаць.

Паслугі перакладчыкаў штогод каштуюць 700 мільёнаў еўра, і яны стануць менш даступныя, бо ёсць мэта не пераўзысці 1 мільярд еўра на год. Перакладчыкі будуць працаваць толькі на нарадах самага высокага ўзроўню. На нарадах і сустрэчах менш важнага ўзроўню ўдзельнікам прыйдзецца зносіцца на мове, якую разумеюць усе, а гэта амаль непазбежна будзе англійская.

На практыцы англійская мова ўсё часцей становіцца рабочай мовай нават у Камісіі.

Таму занепакоенасць Францыі можна зразумець, і, калі яна падасць прыклад, у моўнае змаганне могуць уцягнуцца іншыя краіны Еўрасаюза, для якіх пытанне мовы – важны элемент нацыянальнага жыцця.

*The Times*

# Беларус шукае працу

*Згодна з афіцыйнай статыстыкай, напрыканцы мінулага года 3,1% эканамічна актыўнага насельніцтва было зарэгістравана ў якасці беспрацоўных*

**Колькі у нас беспрацоўных ?**

Спецыялісты адзначаюць, што цяпер беспрацоўныя больш ахвотна рэгіструюцца, чым раней. Прычына не ў тым, што яны надта спадзяюцца на дапамогу цэнтраў па занятасці насельніцтва, а ў тым, што без даведкі з цэнтра па занятасці беспрацоўны не зможа атрымаць субсідыю на камунальныя плацяжы.

Незалежныя эксперты лічаць, што ўзровень беспрацоўя значна вышэй. Акрамя тых людзей, што не маюць ніякай працы ў спіс беспрацоўных можна дадаць тых, хто толькі часткова заняты на вытворчасці або сістэматычна знаходзіцца ў вымушаным адпачынку. Колькі беспрацоўных грамадзян увогуле нідзе не зарэгістраваны, аб гэтым вядома толькі ім самім.

Па звестках Міністэрства працы, самы вялікі ўзровень беспрацоўя ў прыгранічных рэгіёнах, у прыватнасці, у Брэсцкай вобласці. Справа ў тым, што раней там значная колькасць насельніцтва займалася «чаўночным» бізнесам – вазіла ў Польшчу цыгарэты ды спірт. Спачатку гэту катэгорыю «бізнесоўцаў» уціскалі польскія памежнікі і мытнікі, цяпер далучылася праблема візаў. Аказалася, што не ўсе, хто жадае, могуць іх атрымаць.

**Вялікія праблемы малых гарадоў**

Вядома, што чым менш горад, тым менш у ім працоўных месц. Для жыхароў райцэнтраў самая вялікая праблема – не знайсці працу, а ўладкавацца на яе. Калі, напрыклад, жыхар Стоўбцаў патэлефануе ў аддзел кадраў аўтапарка абласнога цэнтра або сталіцы, то ў яго спытаюць не аб кваліфікацыі, а аб прапісцы. Здаецца: ніводзін супрацоўнік аддзела кадраў не ведае, што Канстытуцыйны суд адмяніў узаемасувязь паміж прапіскай і месцам працы. Сталічныя прадпрыемствы могуць прымаць на працу іншагародніх, калі яны маюць хоць фармальную магчымасць кожны дзень вяртацца на пастаяннае месца жыхарства.

Штраф да 5 мінімальных заробкаў прадугледжаны за прыём на працу без пашпарта ці з несапраўдным пашпартам, а таксама «грамадзян, якія пражываюць без прапіскі». Але ў артыкуле 182 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях не напісана, што без прапіскі ў тым жа горадзе, у якім знаходзіцца прадпрыемства.

Паколькі ў малых гарадах працоўных месцаў менш, чым ахвотных іх заняць, то на гэтым добра зарабляюць тыя, хто прымае рашэнні аб прыёме на працу пэўнага спецыяліста. Агульнавядома, што на многія прадпрыемствы «з вуліцы» не ўладкуешся, а толькі пры ўмове, што маеш там сваякоў ці ведаеш, каго трэба «адзячыць».

**Аб працаўладкаванні ў Расіі**

Даволі часта беларусы імкнуцца папрацаваць у Расіі. Там па нашых уяўленнях болей плацяць. Сярэдні расійскі заробак, напрыклад, будаўніка складае 300–400 даляраў. Але там гэты рынак падрываюць украінцы і малдаване, якія згаджаюцца працаваць і за 200 даляраў, таму бывае, што і беларусам больш за 250 не прапануюць. Нягледзячы на тое, што якасць працы і дысцыпліна значна вышэй менавіта ў беларусаў. У Маскву ў асноўным едуць працаваць будаўнікамі і кіроўцамі. У Санкт-Пецярбургу шмат вакансій інжынерна-тэхнічных работнікаў, патрабуюцца і лекары. Гэта акрамя звычайных рабочых вакансій. Паміж Расіяй і нашай краінай існуе пагадненне аб узаемным працаўладкаванні грамадзян, згодна з якім беларусы ў Расіі, а расіяне ў Беларусі не лічацца іншаземнай працоўнай сілай. Каб паехаць на працу ў Расію, не трэба ні ліцэнзій, ні дазволаў. Але тым не менш вельмі часта жаданне паехаць працаваць гуртам і каб нехта знайшоў працу прыводзіць людзей у фірмы-пасярэднікі. Сярод іх ёсць як законапаслухмяныя, так і махлярскія. Апошнія прапануюць працаўладкаванне па такой схеме: абвестка ў газеце, размова з дыспетчарам, збор каля аўтобуса, аплата «за паслугі» ад 20 і больш даляраў – і ўперад, у белакаменную. Больш «агенцтва» ні за што не адказвае. Людзей могуць прывезці, высадзіць з аўтобуса – і ідзіце, куды хочаце, і рабіце, што хочаце.

Не так даўно была агучана колькасць працоўных мігрантаў у Маскве – мільён чалавек. Гэтыя людзі занятыя на некваліфікаванай ці працы з цяжкімі ўмовамі, але ўсё роўна яны непажаданыя госці для ўладаў. Па-першае, наймальнікі такой працоўнай сілы звычайна хаваюцца ад падаткаў. Але ім вельмі выгадна наймаць не масквічоў, бо тыя за 300 даляраў на будоўлі працаваць не будуць, на іх распаўсюджваюцца сацыяльныя гарантыі. Па-другое, працоўныя мігранты дорага абыходзяцца бюджэту. Па-трэцяе, прыкладна 11% злачынстваў – справа рук прыбыльцаў.

У той жа час агульнавядома, што дворнікамі, кіроўцамі муніцыпальнага транспарту працуюць прыезджыя.

Такім чынам, нелегальныя рабочыя рукі прыносяць выгаду толькі тым, хто іх наймае за невялікі па маскоўскіх мерках заробак. Трэба яшчэ ўлічваць і той факт, што шмат гавораць і пішуць аб тым, што жанчын пад маркай афіцыянтак адпраўляюць у сэксуальнае рабства і замоўчваюць, колькі мужчын аказаліся рабамі на маскоўскіх будоўлях.

**Ці добра там, дзе нас няма?**

Фірма-пасярэднік па працаўладкаванню нашых грамадзян за мяжой павінна мець адпаведную ліцэнзію Камітэта па міграцыі. Такая ліцэнзія выдаецца пры наяўнасці ў заяўніка пісьмовай дамовы з замежнай фірмай, якая знаходзіцца ў краіне працаўладкавання. Дасведчаныя людзі раяць падпісваць дамову непасрэдна з фірмай, што запрашае на працу. Фірмы, якія сумленна працуюць, такую магчымасць прадастаўляюць. Яны ж падрабязна інструктуюць чалавека аб правілах у краіне працаўладкавання і ў далейшым адсочваюць яго лёс.

Шмат пісалі ў газетах і паказвалі па тэлебачанні аб несумленных фірмах-пасярэдніках. Таму зноў нагадаем, што за свае ўчынкі чалавек сам і адказвае. Перш чым «купляцца» на салідны офіс, дабразычлівых супрацоўнікаў і абяцаныя вялікія грошы, патрабуйце ў фірмы ліцэнзію, дамову з замежнай фірмай, упэўніцеся праз Камітэт па міграцыі ў сапраўднасці прадастаўленых вам дакументаў, як мага больш самастойна даведайцеся аб мяркуемай краіне працаўладкавання. Дарэчы, ліцэнзія выдаецца на правы працаўладкавання не ўвогуле за мяжой, а ў канкрэтнай краіне ці некалькіх. І яшчэ трэба памятаць, што за мяжу запрашаюць ці на некваліфікаваную працу з нізкімі заробкамі, ці на цяжкую і шкодную для здароўя. Таму трэба суаднесці, якую працу вам прапануюць і за якія грошы. А ўжо потым вырашыць, ці варта рызыкаваць?

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**



## Вакол эканомікі

### МВФ пагражае абвалам даляру

Міжнародны валютны фонд выказаў сваё аўтарытэтнае меркаванне адносна сітуацыі з амерыканскай валютай. Меркаванне, варта зазначыць, зусім не суцяшальнае: вялізны дэфіцыт бюджэту і бягучага рахунку ЗША можа балюча ўдарыць па ўсёй сусветнай эканоміцы і выклікаць рэзкае і «неўпарадкаванае» падзенне даляра. Размова, праўда, ідзе пра доўгатэрміновую перспектыву.



Падставамі рэзкага росту бюджэтнага дэфіцыту Злучаных Штатаў аналітыкі называюць зніжэнне падаткаў і высокія выдаткі на вайну з тэрарызмам. Тэндэнцыя да росту бюджэтнага дэфіцыту працягне ціск на амерыканскі даляр – часткова таму, што дэфіцыт бягучага рахунку ўсё болей адлюстроўвае факт зніжэння аб'ёмаў ашчаджэнняў, а не росту інвестыцый.

Падзенне попыту на амерыканскія актывы з боку замежных інвестараў, наколькі могуць судзіць спецыялісты, ужо з'яўляецца адным з фактараў, якімі абумоўлена паніжэнне курсу даляра. Хоць гэты працэс пакуль застаецца «вельмі ўпарадкаваным», ён ужо ўскладняе працу партнёрам ЗША ў Японіі і зоне еўра.

Між тым у Вашынгтоне, як пацвердзіў кіраўнік Міністэрства фінансаў ЗША Джон Сноў, выступаюць за «моцны даляр», але пры гэтым лічаць, што абменныя курсы павінны натуральным чынам вызначацца на «адкрытых і канкурэнтных рынках». На думку спецыялістаў, гэта азначае, што ЗША не гатовы да здзяйснення валютных інтэрвенцый для падтрымкі даляра.

На сённяшні дзень еўра ўпэўнена можна назваць валютай-фаварытам. Каціроўкі адзінай еўрапейскай валюты да даляра дасягнулі рэкорду – 1,27 даляра за 1 еўра.

Але няўтрымнае ўмацаванне еўра выклікае ўсё больш непакой сярод еўрапейскіх эканамістаў і экспарцёраў прадукцыі. Зніжэнне канкурэнтаздольнасці еўрапейскіх тавараў і паслугаў з-за іх ударажання, звязанага з моцным еўра, хвалюе еўрапейскіх вытворцаў. Ужо называюцца «крытычныя значэнні» (1,35–1,40$/EUR), пры якіх у самім ЕС наступствы моцнага еўра набудуць незваротны для эканомікі характар.

Курс даляра да еўра ў першым квартале панізіцца яшчэ на 6 адсоткаў, да 1,35 даляра, лічаць аналітыкі. На іх думку, у другой палове года Федэральная рэзервовая сістэма ЗША ўсё ж пачне павышаць працэнтныя стаўкі, што павялічыць прыцягальнасць амерыканскай валюты для інвестараў. Па сярэднім прагнозе 54 трэйдэраў і аналітыкаў, да канца года еўра будзе каштаваць 1,25 даляра. Пры гэтым шкала ацэнак дастаткова шырокая – ад 1,05 да 1,43 даляра. Летась даляр упаў у адносінах да еўра на 18 адсоткаў.

### На першым месцы ззаду

Беларусь мае найгоршы рэйтынг эканамічнай свабоды (154-е месца), а эканамічная палітыка краіны ахарактарызавана як «катастрофа». Такія дадзеныя прыводзяцца ў штогадовым аглядзе, складзеным амерыканскім фондам Heritage. Як паведамляе Reuters, усяго рэйтынг улічвае 155 краінаў, якіх параўноўваюць на падставе аналізу 50 розных паказчыкаў, у тым ліку ўзроўню падатковага цяжару, замежных інвестыцыяў, развіцця банкаўскай і фінансавай сістэмы.

З краінаў СНД самае высокае становішча ў табліцы рэйтынга эканамічнай свабоды займае Арменія (44-е месца), Малдова (79-е месца) і Грузія (91-е месца). Расія займае 114-е месца, Украіна – 117-е месца, Казахстан – 131-е месца. Найгоршы рэйтынг разам з Беларуссю ў Таджыкістана (146-е месца), Узбекістана (149-е месца) і Туркменістана (150-е месца).

Найбольш эканамічна свабоднымі ў свеце лічацца Ганконг, Сінгапур і Новая Зеландыя. З краінаў былога СССР найбольш высокі рэйтынг атрымала Эстонія, якая заняла 6-е месца і апярэдзіла такія краіны, як Вялікабрытанія, ЗША і Германія.

### Новая беларуская «мінімалка»

З 1 студзеня 2004 года пастановай Савета міністраў РБ месячная мінімальная заработная плата ўстаноўлена ў памеры 83 тысяч рублёў, пагадзінная мінімальная заработная плата – 490 рублёў. Мінімальная заработная плата з'яўляецца ніжэйшай мяжой кошту рабочай сілы – менш за гэту суму плаціць нельга.

# Багушэвіч і Унія


Былы ўніяцкі касцёл у Барунах

Зараз на рэлігійную унію 1596 года ў беларускім грамадстве існуюць розныя погляды. Аднак ніхто не асмеліцца выкрасліць яе з беларускай гісторыі і культуры, што б пра яе ні казалі. Узяўшы ўсё лепшае і ад каталіцтва, і ад праваслаўя, зрабіўшы ўдалы сінтэз духоўных здабыткаў цывілізацый Захаду і Усходу, Унія сталася адмысловай з'явай у духоўным жыцці беларускага народа.

Вялікі розгалас у літаратуры XIX ст. выклікала яе забарона ў 1839 годзе. Не перастае яе ўспамінаць і Францішак Багушэвіч. У паэме «Кепска будзе», калі ўсе вобразы лічыць алегарычнымі, Унія паўстае як добрая цётка, што на нейкі час прытуліла Беларусь–Аліндарку:

*Мяне цётка, у апеку*
*Узяўшы, трошкі падрасціла*
*Ды якомусь чалавеку,*
*Як за сына, адпусціла.*
*Незадоўга змёрла цётка,*
*Я стаў круглая сіротка.*

Для Багушэвіча Унія, як відаць з тэксту, была апякункай Беларусі і непасрэдна ўдзельнічала ў яе станаўленні і развіцці. У той час менавіта Унія была той спецыфічнай з'явай, пасля забароны якой Беларусь аказалася сапраўднай духоўнай сіратой. Смерць цёткі ў творы – нішто не іншае, як паказ вынішчэння Уніі расейскім самадзяржаўем. Чалавек, які пачаў апекавацца Аліндаркам, з'яўляецца сімвалам Польшчы, якая дапамагала Беларусі ў паўстаннях змагацца за вольнасць. У рэчышчы польскага вызваленчага руху, пра гэта не трэба забывацца, развіваўся і беларускі нацыянальны рух. Унія ж для Багушэвіча - цэлы этап у гісторыі, у якім Беларусь магла лічыцца духоўна незалежнай ні ад Польшчы, ні ад Расеі. Кума ж у паэме, што хрысціла Беларусь-Аліндарку, персаніфікуе сабою праваслаўе, якое для Багушэвіча-каталіка з'яўлялася не зусім ісцінным хрысціянствам. Сама Кума-Праваслаўе паўстае як не вельмі дбайная, хітрая і прагная кабета, што не захацела везці немаўля да касцёла, а хрысціла сама ў рацэ. Ды і прывезла яна дзіцятка дадому, «вочы добра пазаліўшы», што адпаведным чынам характарызуе яе.

Здаецца дзіўным, чаму Багушэвіч сам каталік, што паходзіць з Паўночна-Заходняй Беларусі, дзе каталіцтва не толькі пераважае, а з'яўляецца бадай ці не адзінай рэлігіяй карэнных жыхароў гэтага рэгіёна, звяртаўся ў сваёй творчасці да Уніі. Зараз ведаем, што і каталікі, а тым больш праваслаўныя, даволі насцярожана ставяцца да гэтага веравызнання. Адкуль жа ў яго гэта цікавасць? На радзіме Багушэвіча, у прыватнасці ў Жупранах, Унію памятаюць і дагэтуль: «Была перш вера кальвінская, потым уніцкая, а цяпер каталіцкая. Які быў пан, то такая і вера», – успамінае Яніна Каспяровіч, адна з найстарэйшых жыхарак Жупранаў. Аднак растлумачыць, у чым сэнс «уніцтва» ніхто не мог. Распавядаюць жа, што сапраўды некалі «пры цары» былі часы, калі каталікоў пераводзілі насільна ў праваслаўе. Калісьці паміж Жупранамі і Кушлянамі была невялікая лясная вёсачка Антонаўшчына, ад якой цяпер засталіся толькі зарослыя мохам падмуркі хат. З гэтай вёскі хлопцы неяк пасля Калядаў пакралі ў некага коней, але былі злоўлены. Прыехала павятовае начальства і загадала ўсёй вёсцы, бо ўсе там былі ў кроўнай роднасці, збірацца на высылку ў Сібір. Жанчыны пачалі прасіцца, галасіць, каб іх не высылалі ў такую далеч, ды яшчэ і з малымі дзецьмі. Магчыма, ураднікі з павету толькі гэта і жадалі пачуць. Яны згадзіліся не высылаць вяскоўцаў пры ўмове іх пераходу ў праваслаўе. Людзі разважылі, што так будзе лепей, што ўсё роўна будуць маліцца аднаму Богу, і згадзіліся прыняць праваслаўе. Так, сярод акружэння каталіцкіх паселішчаў, сярод лесу прытулілася адна невялікая праваслаўная вёсачка. Калі ж надышлі больш ліберальныя часы і каталіцтва ў Расейскай імперыі перастала пераследавацца, уся вёска Антонаўшчына, пачынаючы ад малых і заканчваючы нямоглымі старымі, паехалі на вазах, убраных у стужкі і званочкі, зноў вяртацца ва ўлонне каталіцкай царквы. З вежаў Жупранскага касцёла, як на самае вялікае свята, ляцеў гул усіх званоў. Нідзе ў гістарычных дакументах не значыцца, што ў Жупранскай парафіі некалі жылі ўніяты, хоць згадваецца сапраўды кальвінісцкая абшчына, якая ўтрымлівала вельмі добрую школу.

Можа, памяць пра Унію ў Жупранах - гэта водгалас славы Барунскага базыльянскага кляштара са славутым цудоўным абразом Маці Божай, якую ўзгадваў нават Адам Міцкевіч у «Пану Тадэвушу». Баруны знаходзяцца не так і далёка ад Кушлянаў. Напэўна, доўга жыла памяць пра Унію ў наваколлі пасля яе забароны. Дарэчы, уся Барунская ўніяцкая парафія перайшла ў каталіцтва, а не ў праваслаўе. Магчыма, цікавіўся Багушэвіч уніяцтвам яшчэ і з той прычыны, што паэтава маці была пляменніцай уніяцкага біскупа Адрыяна Галаўні. У першай трэці XIX ст. ён кіраваў Літоўскай уніяцкай епархіяй, меў тытул Аршанскага біскупа. Напэўна, яшчэ з маленства Францішак меў дачыненні з Уніяй.

Апісанне пераводу ўніятаў у праваслаўе бачым у вершы Ф.Багушэвіча «Хрэсьбіны Мацюка». З аднаго боку, тут нідзе Унія і не ўспамінаецца, гаворыцца пра каталіцтва. Але апісваецца такая сітуацыя: калі казак пытаецца ў Мацея, героя верша, якой ён веры («Ці ты праваслаўны, ці ты – паляк?»), то той адказвае:

*«А дайце ж, паночку, – кажу, – мне пакой,*
*Ды я ж тутэйшы, я ж казаў так!..»*

Становіцца зразумелым, што Мацей не атаясамлівае сябе з вышэйназванымі веравызнаннямі і адпаведна з нацыямі, што спавядаюць іх. Ён акцэнтуе сваю ўвагу на «тутэйшасці», на сваім адрозненні ад палякаў і ад расейцаў. Ён яшчэ не ведае як назваць сябе, але перакананы ў сваёй асобнасці. Калі Мацей не належыць ні да польскай, ні да рускай веры, то значыць ён з'яўляецца ўніятам. Само веравызнанне, рэлігія ў свядомасці многіх людзей і зараз выклікае асацыяцыю з нацыянальнай прыналежнасцю. Тым больш гэта было ў XIX ст. сярод малаадукаваных сялянаў. Даследчык С.Майхровіч сцвярджаў, што «беларус, згодна з «паліцэйскай мудрасцю», калі меў няшчасце быць хрышчаны ў касцёле, афіцыйна лічыўся палякам...» (*Майхрович С.К.* Жизнь и творчество Франтишка Богушевича. Мн., 1961. С.129). Як бачым, царызм, афіцыйная ідэалогія толькі спрыялі такому разуменню рэчаў. Тутэйшасць, такім чынам, супадае па ўсіх прыкметах з уніяцтвам. Тутэйшасць, адчуванне прыроcласці да роднай зямлі і Унія, на думку Багушэвіча, павінны былі стаць фактарамі нацыянальнага абуджэння беларусаў. Унія не вытрымлівае агрэсіі з боку ўладаў, не вытрымлівае і Мацей:

*Я кажу гэтак: «Калі ж ужо так,*
*Што васпан б'ешся без дай прычыны,*
*То, мусіць, і праўда, што я і паляк*
*І буду паляк я ад гэтай гадзіны!»*

Тут зноў бачым прыклад змешвання веравызнання і нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Гэта пацвярджаюць і словы князя Хаванскага ў вершы:

*Эх, – кажа, – рыбяты! – вы дуракі,*
*Што ў рускай зямлі ды каталікі!*

Ф.Багушэвіч вельмі востра адчуваў гэту блытаніну, што знайшло адлюстраванне ў вершы. Мацей жа, як і павінна быць у аўтара-каталіка, і што сапраўды адбывалася на Ашмяншчыне, пераходзіць у каталіцтва і застаецца верным яму, бо бачыць, што дрэнная тая вера, у якую заганяюць нагайкай.

У вершы ўпамінаецца і рэальная гістарычная асоба - князь Хаванскі. Ён з'яўляўся, як сцвярджае даследчык Г.Кісялёў ваенным начальнікам Віленскага павета ў мураўёўскія часы(*Кісялёў Г.* Радаводнае дрэва. Мн., 1994. С.66). Князь Хаванскі сапраўды праславіўся тым, што многіх каталікоў-сялян з-пад Вільні пераводзіў ў праваслаўе непасрэдна пасля паўстання 1863 года. Ёсць звесткі (*Кісялёў Г.* Радаводнае дрэва... С.66), што Багушэвіч у гэтыя часы хаваўся ў самой Вільні або ў яе ваколіцах як былы паўстанец і таму ведаў ваеннага начальніка павета Хаванскага, менавіта ад якога ён і хаваўся. Такім чынам, верш можна расцэньваць як гістарычны, бо напісаны ў канцы 1880-х – пачатку 1890-х гадоў, распавядаў пра падзеі значна ранейшыя. Дарэчы, абставіны, апісаныя ў вершы «Хрэсьбіны Мацюка», вельмі нагадваюць ваеннае становішча як рэакцыю на паўстанне. Бачым, што яшчэ ў паўстанцкія часы, пасля 20 год з часу забароны Уніі, вельмі моцнай і трывалай была памяць пра яе.

Тутэйшасць у вобразе «сваёй зямлі» спалучана з Уніяй у аднайменным творы паэта. Лірычны герой успамінае, што «былі ўніяты калісьці дзяды», хоць сам сябе атаясамлівае з каталікамі, як бачым далей у творы. Кажа, што «за веру дык цярпелі не мала», г. зн. падвяргаліся насільнаму прымусу, русіфікаваліся і аправаслаўліваліся (дазволім ужыць і такі тэрмін у процівагу тэрміну «акаталічванне» для большай навуковай аб'ектыўнасці). Лірычны герой верша аднак даказвае, што яго аднавяскоўцы не забыліся на дзядоўскую веру, а збіраліся ў пушчах:

*Чытаюць малітвы і плачуць шчэра;*
*Скончуць малітвы і разыдуцца,*
*Вот і ўся была тут іх вера.*

Верш узвышаў беларускі дух, кшталтаваў беларускую нацыянальную самасвядомасць. Яна ж, з пазіцыі Багушэвіча, магла сфармавацца толькі на адчуванні сваёй адрознасці і ад расейцаў, і ад палякаў. Гэтаму ж спрыяла ў душы беларуса адчуванне повязі з роднай зямлёй (тутэйшасць) і прыналежнасць да Уніі. Лірычны герой верша «Мая зямля» не хоча даваць прысягу ў царкве, бо не лічыць сябе праваслаўным , адчувае сябе там чужым, не забываючы, што «ўніяты былі дзяды». Багушэвіч хацеў данесці чытачам, што ніякія яны не палякі і не расейцы, а адзін народ, што жыве на тутэйшай зямлі, аб'яднаны ў мінулым адзінай уніяцкай верай.

Верш «Свая зямля» сугучны ў некаторых момантах з праклaмацыяй, што прыпісваецца Ф.Багушэвічу, пра закрыццё касцёла ў Крожах. Даследчык С.Александровіч дапускаў, што ўлётка магла быць часткай асобнай кнігі (*Александровіч С. Х.* Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971. С.99). У праклaмацыі знаходзім такія радкі: «Шмат уніятаў так не жаніўшыся і жывуць на веру, без шлюбу. Ці ж гэта не нядоля, ня грэх? А ўсё ж хто да гэтага даводзе? Царская ўправа!» Верш «Свая зямля» кажа тое ж самае:

*«Самі сябе хрысцілі з вады,*
*Жаніліся так, што без шлюбу...*
*І многа, многа было з тым бяды,*
*І многа людзям што на згубу!»*

Уніяты малююцца перад намі ў праклaмацыі і ў вершы як вельмі моцныя духам людзі, як сапраўдныя пакутнікі, што церпяць за веру як некалі першыя хрысціяне. Аўтар кажа, што «святую веру мучаць як самаго Пана Язуса». Аўтар паказвае, як даведзеныя да адчаю людзі ідуць нават на самагубства, абы застацца вернымі свайму Богу. Расказвае пра ўсялякія беды, што напаткалі ўніятаў, і суцяшае, кажучы, што «але Бог усюды ёсць і ён ня здрадзе!» Прынцып несупраціўленя злу сілай даволі выразна рэалізуецца праз гэтыя словы, што было ўласціва поглядам Багушэвіча. Па сутнасці, праклaмацыя ўяўляе некалькі перафразіраваныя і пашыраныя словы з Евангелля: «Дабрашчасныя вы, калі будуць вас ганьбіць і гнаць і ўсякім словам ліхім несправядліва зневажаць за Мяне. Радуйцеся і весяліцеся, бо ўзнагарода ваша вялікая на нябёсах...» Сапраўды, беларусам у тыя часы нічога не заставалася як спадзявацца і маліцца, але маліцца па-свойму. Ф.Багушэвіч ведаў, што Унія яшчэ жывая ў ментальнасці і светаадчуванні беларусаў, што яна яшчэ не поўнасцю выкаранена з людской памяці, таму стараўся выклікаць у беларусаў жаль і смутак па ёй, настальгію па «страчаным раі». Ф. Багушэвіч верыў, што ўніяцтва было яшчэ здольным у той перыяд аб'яднаць народ у нацыю, падштурхнуць да самаўсведамлення. Унія прэтэндавала на тое, каб зноў адрадзіцца і стаць нацыянальнай рэлігіяй беларусаў. Менавіта пра гэта і спяваў пясняр у канцы XIX ст. Але кажуць, што няма прарока ў сваёй айчыне. Не ўсе слухалі апосталаў і прарокаў, не ўсе пачулі і голаса Багушэвіча, голаса, што быў крыкам таго, хто кліча ў пустыні.

**Віктар ШУКЕЛОВІЧ**

# Лёс невядомы...

**_Гартаючы энцыкляпэдыі альбо даведнікі, нярэдка сустракаеш у артыкулах пра беларускіх палітыкаў, вайскоўцаў і літаратараў першай паловы XX стагодзьдзя замест году сьмерці – пытальнік. «Далейшы лёс невядомы», – пішуць дасьледчыкі ў іх біяграфіях. А людзі гэтыя былі далёка не шэрагоўцамі ў нацыянальным руху! Але выйсьці на іх сьлед, адшукаць дакумэнты і сьведчаньні няпроста. У некаторых выпадках гэта каштуе і немалых грошай. Праўда, іншы раз здараецца, што даведваешся пра лёс чалавека зусім выпадкова і нечакана. У 2000 годзе вярнуўся з Расеі ў свой родны Слонім былы палітвязень Пятро Пархута. У размове, якая адбылася незадоўга да яго сьмерці, Пархута выпадкова згадаў беларускага дзяяча, вайскоўца Рыгора Зыбайлу, які зьнік у Францыі ў 1945 г. Аказалася, што Зыбайла прайшоў савецкія канцлягеры і памёр у 1987 годзе на Івацэвіччыне..._**

### Як згубіўся прэзыдэнт

Першым прэзыдэнтам (старшынёй) Рады Беларускай Народнай Рэспублікі быў Іван Серада. Менавіта пад яго старшынством быў прыняты Акт 25 сакавіка 1918 году, які абвесьціў дзяржаўную незалежнасьць БНР. У 1921 г. Серада вярнуўся з эміграцыі ў савецкую Беларусь, працаваў у Інбелкульце, дацэнтам Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. У 1930-ым Сераду арыштавалі па справе «Саюзу вызваленьня Беларусі», ён атрымаў 5 гадоў высылкі ў Расею. У 1941 г. яго зноў арыштоўваюць і даюць новы тэрмін - 10 гадоў зьняволеньня. Для 62-гадовага Івана Серады гэта, фактычна, быў сьмяротны прысуд. Але ў лістападзе 1943 г. здараецца цуд – беларускага дзеяча вызваляюць. Куды ён паехаў, дзе спыніўся на жыцьцё – невядома. Магчыма, пастараўся незаўважна зьнікнуць – баяўся трэцяга арышту. Мы ж згубілі першага прэзыдэнта незалежнай Беларусі...

Праблема «зьнікненьня» дзясяткаў беларускіх дзеячоў у пасьляваеннай Эўропе ў той час хвалявала найперш савецкія спэцслужбы. Яны разьведвалі, дзе і пад якім прозьвішчам жыве той ці іншы дзяяч. Прэзыдэнта Беларускай цэнтральнай рады Радаслава Астроўскага ў Заходняй Нямеччыне адшукалі такі савецкія агенты. Яны завіталі ў яго кватэру, нібыта, як пасланцы зь Беларусі «ад генэрала Вітушкі» (камандзіра антыбальшавіцкіх партызанаў, вучня Астроўскага ў Віленскай беларускай гімназіі) з лістом, у якім прэзыдэнту прапаноўвалася нелегальна вярнуцца ў Беларусь. Вяртацца Астроўскі і ня думаў – каб бальшавікі яго схапілі, быў бы паказальны судовы працэс і шыбеніца. А ад нахабных савецкіх агентаў яго выратавала ахова. Пасьля гэтага прэзыдэнт БЦР схаваўся ў Аргентыне і, такім чынам, не згубіўся.

### Найдзюка знайшлі праз ліставаньне

Выпадкова мне ўдалося выйсьці на сьлед былога камандзіра Беларускай краёвай абароны і намесьніка прэзыдэнта БЦР у Слонімскай акрузе Язэпа Дакіневіча. Летам 1944 году 38-гадовы Дакіневіч распусьціў сваіх байцоў, а сам выехаў на Захад. У першыя пасьляваенныя гады яго прозьвішча яшчэ можна было спаткаць у сьпісах сяброў беларускіх камітэтаў у Заходняй Нямеччыне, а пасьля ён зьнік. Эміграпты пра ягоны лёс нічога не ведалі, некаторыя радзілі шукаць сьляды Дакіневіча ў Польшчы. І яны мелі рацыю.

У лютым 2001-га 76-гадовая сланімчанка Ніна Сяменік распавядала мне пра землякоў, якія пасьля вайны выехалі ў Польшчу. Яна зь імі трымала сталую сувязь, яны (а часьцей іх нашчадкі) прыязджалі да яе ў госьці. Спадарыня Ніна згадала Дакіневіча. Распавяла, як у 1944-ым ён вянчаўся ў слонімскім касьцёле з полькай Гэленай Аградоўскай з Рышчыц. Пасьля яны разам паехалі на чужыну. «Ведаеце, што зь ім было далей?» – спыталася Ніна Сяменік. «Напэўна, жыў дзесьці на Захадзе», – адказваю. «А ў мяне ёсьць весткі, што Дакіневіча пасьля вайны бачылі ў Польшчы, у Пазнані», – сказала бабуля і загадкава ўсьміхнулася. Здаецца, беларускаму афіцэру Язэпу Дакіневічу пашанцавала і яго не адшукала савецкая дзяржбясьпека.

Польшча пасьля вайны дала прытулак многім беларускім дзеячам. Найбольш вядомая гісторыя Язэпа Найдзюка, аўтара кнігі «Беларусь учора і сяньня», які пад прозьвішчам Александровіч спакойна жыў у горадзе Інаўроцлаў. Спэцслужбы знайшлі яго толькі ў 70-х – выдала ліставаньне з братам Чэславам, які знайшоўся ў ЗША. Вайсковым злачынцам Найдзюк ня быў, але, каб знайшлі ў 1940-50-х – дэпартавалі б у СССР і чакаў бы яго канцлягер. Аднак часы ўжо зьмяніліся. Гісторык Юры Туронак распавядае, што чэкісты абмежаваліся тым, што завіталі ў госьці да Язэпа Найдзюка і паведамілі, што... яго знайшлі. Можна ўявіць, як адчуваў сябе ў гэты момант беларускі дзяяч-канспіратар...

Паводле ўспамінаў нядаўна памерлага дзяяча Саюзу беларускай моладзі Янкі Жамойціна, пасьля вайны ў Польшчы хаваўся шэф гэтай арганізацыі Міхал Ганько. Лічыцца, што сьлед Ганька губляецца ў 1945 годзе ў Чэхіі, а Жамойцін спаткаўся зь ім у адным з польскіх гарадоў у 1947-ым. «Мы сустрэліся выпадкова, на вуліцы, – распавядаў мне летам 2001-га сп. Янка. - Ішлі насустрач адзін аднаму. Ганько быў у плашчы і капялюшы, рукі трымаў у кішэнях. Я яго адразу пазнаў, а ён – мяне. На імгненьне затрымаліся, сустрэліся вачыма і... кожны пайшоў сваёй дарогай».

### Тайна Філістовіча

Пра Янку Філістовіча, студэнта-гісторыка Сарбонскага ўнівэрсытэту і лідэра беларускай моладзі на эміграцыі ў другой палове 1940-х, напісана нямала. У верасьні 1951-га Філістовіч дэсантаваўся на Беларусі з амэрыканскага самалёту, цэлы год арганізоўваў на Маладэчаншчыне падпольле, ачоліў антысавецкую партызанскую групу. Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык надаў «Івану Слуцкаму» (псеўда Філістовіча) рангу палкоўніка, лічыў, што ён быў на волі і дзейнічаў яшчэ ў сярэдзіне 50-х. Аднак Янка быў схоплены чэкістамі раней – у верасьні 1952 году. Аляксандар Лукашук у кнізе «Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста» піша, што яго расстралялі ў сакавіку 1953-га, у дзень сьмерці Сталіна. Гэтай вэрсіі прытрымліваецца бальшыня дасьледчыкаў. Але існуе і іншая вэрсія.

Сям'я Я.Філістовіча, якая з 1944 г. жыве ў Польшчы, у красавіку 1959 году атрымала ліст з польскага Чырвонага Крыжа. У ім паведамлялася, што «у адпаведнасьці з данымі Савецкага Чырвонага Крыжа ў Маскве, Філістовіч Ян, сын Андрэя, народжаны ў 1926 г. у Паняцічах, памёр дня 19 сакавіка 1954 году на тэрыторыі СССР. Прыносім Вам шчырыя спачуваньні». Можна было б допусьціць, што гэта звычайная адпіска з далёкай ад рэальнасьці датай, аднак... У чэрвені 2001 году я трымаў у руках іншы дакумэнт, які сваякі Філістовіча атрымалі ў лютым 1992-га з упраўленьня юстыцыі Менгарвыканкаму (!). Зь яго вынікае, што Філістовіч быў асуджаны Ваенным трыбуналам БВА 4-5 лістапада 1953 г. да «вышэйшай меры пакараньня» і што быў расстраляны. Такім чынам, у сакавіку 1953 году Янка Філістовіч быў яшчэ жывы. Сястра ж Янкі Галіна (Серафіма) перакананая, што расстраляны ён ня быў.

Спадарыня Галіна распавядала мне містычную гісторыю. Дзесьці ў пачатку 60-х гадоў сёстры зьвярнуліся да вядомай варажбіткі, каб даведацца пра лёс брата. Па фотаздымку Янкі яна распавяла ім яго біяграфію і абнадзеіла: «Вы не ўяўляеце, праз што ён прайшоў, але ваш брат жывы. І ён будзе вельмі стары, як вы аб ім даведаецеся... Яму дапамагла чорная жанчына ў турме...». На сьвята Усіх Сьвятых Філістовічы ідуць у касьцёл (у Польшчы яны сталі каталікамі) – памінаць усіх сваіх памерлых сваякоў. Толькі імя Янкі ня пішуць – вераць, што, як і напісаў Лукашук, ён яшчэ вернецца...

### Зь лягеру – на волю, з волі – у няволю

Дасьледчыца гісторыі беларускай эміграцыі Лідзія Савік прыклала шмат намаганьняў, каб устанавіць далейшыя лёсы зьніклых дзеячоў-літаратараў. У 90-х ёй удалося пазнаёміцца ў архіве КДБ Беларусі са справай таленавітага паэта Уладзімера Дудзіцкага (Гуцькі). Праўда, у справе былі толькі дакумэнты, створаныя пасьля яго першага арышту ў 1933 г. Пра вяртаньне Дудзіцкага з эміграцыі ў СССР у 70-х матэрыялаў не знайшлося. «У 70-ыя гады, у брэжнеўскі час, рэпрэсіяў ужо ня было», – сказалі дасьледчыцы. Але ж ёсьць згадка, што беларускага паэта менавіта тады бачылі ў мардоўскіх лягерах... Знайсьці сьляды Дудзіцкага вельмі хацела ягоная жонка Вера, якая жыве ў ЗША. Беларускі паэт зачараваў яе ў Вэнэсуэле, і яна сыйшла ад мужа – багатага расейца, забраўшы з сабой трох дзяцей. У 1976-ым, калі зьнік Уладзімер, зь ёю засталіся ўжо пяць дзетак.

Дагэтуль загадкай застаецца лёс паэта Янкі Палоннага, які ў 1943 годзе выехаў з Бэрліну ў Беларусь і бясьсьледна зьнік. Праз год у Славакіі згубіўся пісьменьнік Зьмітрок Астапенка, які, каб вырвацца з сталінскага канцлягеру, пайшоў дабраахвотнікам у савецкую дэсантную групу. Масей Сяднёў успамінаў, што да беларусаў у Бэрліне дайшоў ягоны ліст, дзе паведамлялася, што Астапенка «ідзе на Захад». Ці дайшоў, калісьці даведаемся з архіваў ГРУ альбо КДБ. Праўда, зусім нядаўна адзін беларускі дасьледчык натрапіў на сьлед Астапенкі і сьцьвярджае, што ён не загінуў у Славакіі! Пра яшчэ аднаго пісьменьніка, Міколу Целеша, нагадала Л.Савік. Па вайне ён жыў у ЗША. Аднойчы Целеш выйшаў з дому і яго больш ніхто ня бачыў. Адбылося гэтага дзесьці ў 1970-х гг.

Нядаўна ў Польшчы пабачыла сьвет кніга публіцыста і палітыка Міколы Шкялёнка «Беларусь і суседзі». У вайну Шкялёнак быў віцэ-прэзыдэнтам БЦР і адначасова ўдзельнікам нацыянальнага антынацысцкага Супраціву. Вясной 1945 г. ён вырашыў нелегальна вярнуцца зь Нямеччыны ў Беларусь. Паводле эміграцыйных крыніцаў, яго арыштавалі ў Польшчы ў канцы 1945-га ды расстралялі. Але супрацоўнік архіву КДБ Беларусі Ігар Валахановіч сьцьвярджае, што Мікола Шкялёнак не патрапіў у рукі дзяржбясьпекі і яго далейшы лёс невядомы. А вось у біяграму паплечніка Шкялёнка Ўсевалада Родзькі ўжо можна ўнесьці зьмены. Ён ня быў расстраляны ў 1946 годзе. Сьмяротны прысуд Родзьку замянілі на 25 гадоў зьняволеньня і забаранілі вяртацца з Расеі на Бацькаўшчыну. Яшчэ ў 1956-ым яго бачылі ў адным з сібірскіх лягероў. Як склаўся ягоны далейшы лёс, невядома...

**Сяргей ЁРШ**



**Сябры Беларускага клюбу імя Івана Луцкевіча. Буэнас-Айрэс, 1940 г. Многія з гэтых людзей, паверыўшы савецкай прапагандзе, у пасьляваенны час вярнуліся на «вольную Радзіму»**

# «Залаты Век Беларусі»





23 снежня ў літаратурным музее Максіма Багдановіча ў Мінску распачалася выстава «Залаты Век Беларусі», прысвечаная 450-годдзю Рэфармацыі ў Вялікім княстве Літоўскім. Выстава стала заключнай у шэрагу падзеяў, прысвечаных юбілею. Вернісаж уключае каля 30 работ, выкананых у розных тэхніках – жывапіс, графіка, скульптура. Сярод аўтараў - Арлен Кашкурэвіч, Алесь Марачкін, Віктар Сташчанюк, Рыгор Сітніца, Сяргей Гуміleўскі ды іншыя.

Большасць твораў мастацтва на гістарычную тэму – партрэты славутых дзеячаў 16 стагоддзя, архітэктурныя пейзажы гарадоў, звязаных з Рэфармацыяй, – Нясвіжа, Заслаўя, Клецка, Любчы.

Рэфармацыя ў сённяшнім беларускім грамадстве ўспрымаецца не толькі як рэлігійная з'ява.. Культура, эканоміка, будаўніцтва гарадоў, асветніцтва ды навука ў гэты час былі непасрэдна звязаны з рэфармаваннем царквы. Вяртанне да біблейскіх прынцыпаў не толькі ў духоўнай сферы, але таксама і ў штодзённым жыцці і працы, якое абвесцілі Лютар ды Кальвін, падхапілі і беларусы.

У мінулым годзе споўнілася 450 год з таго моманту, як Мікалай Радзівіл Чорны, самы уплывовы дзеяч Вялікага княства Літоўскага, публічна вызнаў сваю прыналежнасць да пратэстанцкай веры. У сваім лісце да папскага нунцыя Алаізія Ліпамана ён абгрунтаваў сваё веравызнанне і абвесціў сябе евангельскім хрысціянінам. Гэту падзею прынята лічыць афіцыйным пачаткам рэфармацыйнага руху на беларускай зямлі.

Мастакі надзялілі асобай павагай пастаць Мікалая Радзівіла Чорнага. На выставе прадстаўлена адразу некалькі яго мастацкіх вобразаў. Адзін з іх належыць маладой мастачцы Ірыне Назімавай, другі – сумесны партрэт «Князь Мікалай Радзівіл Чорны і Сымон Будны ў Нясвіжскай друкарні» створаны народным мастаком Беларусі Уладзімірам Стальмашонкам. Мікола Купава прадставіў партрэты князя Мікалая Радзівіла Чорнага і паэта Андрэя Рымшы, а таксама графічную працу «Элегія. Памяці Мікалая Радзівіла Рудога».

У 2004 г. у працяг году Рэфармацыі планецца выдаць славуты «Катэхізіс» Сымона Буднага ў перакладзе на сучасную беларускую мову, а таксама гістарычнае даследаванне доктара Анатоля Грыцкевіча пра Мікалая Радзівіла Чорнага. Акрамя таго, ідзе праца па ўстаноўцы мемарыяльнага знака ў Койданаве на месцы зруйнаванага кальвінскага збору. Па прапанове беластоцкіх беларусаў планецца выдаць матэрыялы з гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст., датычныя пратэстанцкага руху ў краіне.

Выстава «Залаты Век Беларусі» ў музеі Максіма Багдановіча ў Траецкім прадмесці будзе доўжыцца да 20 студзеня.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**









## «Тройца» працуе разам з Ліепам

7 студзеня ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода этнагурт «Тройца» прадставіў сваю новую праграму «Сем», якая ўключае ў сябе сем песень, сярод якіх самая хітовая «Сем чарак гарэлкі». Але гучалі і іншыя кампазіцыі з альбомаў «Тройца» і «Журавы». Новы дыск гурта мусіць з'явіцца ўжо неўзабаве – гэтай зімой.

Гэты канцэрт стаў асаблівым яшчэ і тым, што якраз у гэты дзень, на праваслаўнае Раство, гурту споўнілася сем год. Але ёсць і яшчэ адна адметнасць гэтага выступу «Тройцы». Яна палягае ў тым, што гурт у асноўным гастралюе па замежжы, а ў Беларусі дае канцэрты зрэдзьчасу. Прыкладам, летась музыкі наогул не гралі і не спявалі на беларускай сцэне, калі не лічыць выступу ў адным сталічным клубе. Вось і гэты канцэрт 7 студзеня, можа быць, стаў першым і астатнім у гэтым годзе. Згралі музыкі як заўсёды файна, вось толькі трохі падвяла акустыка Палаца культуры МТЗ. Мне даводзілася раней прысутнічаць на канцэрце «Тройцы» ў Палацы Рэспублікі – розніца ў гуку досыць адчувальная. Але, відаць, арэнду такой дарагой пляцоўкі музыкі сабе дазволіць не могуць.

Дарэчы, цікавая навіна: сёлета беларускіх і не толькі слухачоў і гледачоў чакае знаёмства з праектам «Руны», у якім бяруць удзел Іван Кірчук ды іншыя музыкі «Тройцы». З «Рунаў» зробяць шыкоўнае сцэнічнае шоу, чым зоймецца вядомы латышскі балетмайстар Андрыс Ліепа, якому дужа спадабаліся выкшталцона апрацаваныя рокам і электронікай народныя песні. Ліепа назваў музыку «Рунаў» ні больш ні менш «славянскім Pink Floyd».

## НРМ дасць «Справаздачу»

Як паведамляе афіцыйны сайт аднаго з самых вядомых і папулярных беларускіх гуртоў НРМ nrm.by.com, на пачатак лютага запланаваны рэліз складанкі лепшых песень «Справаздача 1994–2004». Акрамя рэмайстраваных старых запісаў, на ёй будуць некалькі новых кампазіцыяў, над якімі зараз працуе гурт, а таксама некалькі рарытэтаў.

Асноўная частка дыску будзе складзеная з дапамогай галасавання фанаў гурта. У «Справаздачу» ўвойдуць па тры найбольш папулярныя песні з кожнага з пяці студыйных альбомаў НРМ. Прэзентацыя гэтай праграмы адбудзецца 8 лютага ў канцэртнай зале «Мінск».

## Хто паедзе на «Еўрабачанне»?

31 студзеня стане вядома прозвішча спявака ці спявачкі, што прадставіць нашую краіну на дэбютным для яе музычным конкурсе «Еўрабачанне», што мае адбыцца ў траўні ў Стамбуле.

У апошні дзень студзеня ў наўпроставым эфіры Першага нацыянальнага канала будзе паказаны адборачны канцэрт з удзелам 15 беларускіх выканаўцаў, адабраных прафесійным журы. З вядомых сярод іх - Ірына Дарафеева з песняй «Find a great love», Аляксандр Саладуха («Не перажывай»), Наталля Тамела («Дачакайся»), Аляксандра Кірсанава з вядомага дуэта «Аляксандра і Канстанцін» («Мой Галілей»), гурт «Юр`я» («Калі чарка», «А ў лузе»), пераможца апошняга фестывалю «Славянскі базар» Максім Сапацькоў («Хай тае снег»).

Беларускага прадстаўніка на «Еўрабачанне-2004» выбярэ шляхам тэлефоннага галасавання народ. Той, хто зойме ў рэйтынгу глядацкіх сімпатыяў другое месца, стане ў Турцыі дублёрам першага нумара.

**Кірыла ПАЗНЯК**

# Хаос

П'ер Паола ПАЗАЛІНІ

**П'ер Паола Пазаліні (1922–1975) – выдатны італьянскі пісьменнік, паэт, рэжысёр, мастак, публіцыст. Аўтар паэтычных зборнікаў «Дзённікі», «Прах Грамшы», «Рэлігія майго часу», раманаў «Сон аб нечым», «Бурнае жыццё», фільмаў «Евангелле ад Мацея», «Дэкамерон», «Акатон». Некалькі тэкстаў са зборніка «Хаос», якія прадстаўлены ў беларускім перакладзе, напісаны ў 1968–70 гады.**

**Публіцыстычныя мініяцюры Пазаліні са зборніка «Хаос» падобныя на яго рысункі – такія ж імпэтныя, месцамі нервовыя лініі, штрыхі, што адвольна ствараюць незабыўную выяву. Чытаючы Пазаліні, мы атрымліваем карысныя урокі нонканфармізму.**

**Валеры Буйвал**

## Наркотыкі і культура

Чаму людзі ўжываюць наркотыкі? Я не разумею гэтага, але нейкім чынам тлумачу. Ужываюць наркотыкі з-за браку культуры.

Кажу, зразумела, пра значную большасць або пра сярэднястатыстычную колькасць наркаманаў. Ясна, што яны ўжываюць наркотыкі, каб запоўніць пустату, брак чагосьці, што выклікае разгубленасць і абурэнне. Гэта замест магіі. Прымітыўныя народы заўсёды сам-насам з гэтай страшнай пустатой у саміх сябе. Эрнэста дэ Марціна называе гэта «страхам згубіць сваю ўласную прысутнасць»; і прымітыўныя якраз запаўняюць гэтую пустату, звяртаючыся да магіі, якая ўсё тлумачыць і запаўняе.

У сучасным свеце прыстасаванне да прыроды саступіла месца прыстасаванню да грамадства: калі мінае першы момант эйфарыі (ілюзорнасць, навука, прыкладная навука, камфорт, дабрабыт, вытворчасць і спажыванне), вось тады той, хто прыстасоўваецца, апынаецца сам-насам з сабой: ён, такім чынам, як і прымітыўны чалавек, апантаны страхам згубіць уласную прысутнасць.

На самой справе ўсе мы – наркаманы. Я (бо ведаю) займаюся кіно, астатнія захапляюцца іншымі відамі дзейнасці. Справа заўсёды мае функцыю наркотыка. Чэ Гевара быў наркаманам праз рэвалюцыйную дзейнасць (тэорыя якой зыходзіла з рамантычнага кастрызма: дзейнічаць, а потым думаць). Праца, якая служыць «вытворчасці», таксама ёсць від наркотыка. Тое, што выратоўвае ад сапраўдных і ўласна наркотыкаў (гэта значыць ад самагубства) заўсёды з'яўляецца формай культурнай бяспекі. Усе, хто ўжывае наркотыкі, знаходзяцца ў небяспецы ў культурным сэнсе. Пераход ад гуманістычнай культуры да культуры тэхнічнай выклікае крызіс культуры як такой. Ахвярамі гэтага крызісу становяцца перш за ўсё маладыя. Вось чаму так шмат маладых людзей ужываюць наркотыкі.

Быць пазбаўленым культурных прыярытэтаў, а значыць, і магчымасці запоўніць уласную пустату ў хворай душы калі не метадам самааналіза, то праз свядомасць (індывідуальную або класавую) альбо інакш кажучы, банальнымі словамі – таксама значыць быць невукамі. Крызіс культуры сапраўды прывёў да таго, што многія маладыя людзі літаральна ёсць невукамі. Гэта значыць, што яны ўжо больш не чытаюць і не чытаюць з любоўю.

Трэба дадаць: маладыя невукі, якія не ўжываюць наркотыкі, а магчыма, усё ж з'яўляюцца наркаманамі праз адмысловую палітычную дзейнасць (што ёсць асобная форма невуцтва), вельмі часта паводле характару злыя, негуманныя, дзёрзкія, непрыемныя: менавіта такія, якімі хоча іх бачыць неакапіталістычная культура (супраць якой яны змагаюцца).

А вось маладыя «невукі», якія ўжываюць наркотыкі, у цэлым добрыя, прыемныя, міласэрныя, як апосталы, бяззбройныя, неагрэсіўныя, даверлівыя (менавіта, як прымітыўныя народы): разлом у царственнай асобе, гэта значыць у іхнім уласным целе ёсць больш страшны і мізэрны. Яны сапраўды, калі б былі на гэта здольныя, то мелі б поўнае права першымі кінуць камень. У адрозненне ад згаданых першымі класавых экстрэмістаў, якія кажуць словамі (кепскіх) друкаваных выданняў, другія спалілі масты: для іх не засталося ніякай магчымасці інтэграваццa.

Такім чынам, іхні бунт, хаця страшны і хвалюючы, ёсць безвыніковы: менавіта таму, што яму бракуе культуры або ён разгортваецца па-за культурай. Наогул, лёгка быць добрымі і прыемнымі, як прымітыўныя народы, лёгка быць жаласлівымі з прычыны страху, выкліканага пустатой, у якой жывеш.

З другога боку (і гэтае выключэнне напаўняе адчаем), вызваленне ад гэтага «браку культуры» або ад «культурніцкага інтарэсу» здаецца немагчымым; сапраўды, гэта выклікана хутчэй за ўсё больш агульнай з'явай «страху перад будучыняй». Ніколі яшчэ, як у нашы гады (калі «прадбачанне» стала навукай), будучыня не была крыніцай такой няпэўнасці, што так падобна да незразумелага жаху.

## Новая свабода, якая забівае

Забілі Тома Мбоя. Для мяне Том Мбоя не проста імя або аддаленая абстракцыя. Я бачыў яго на ўласныя вочы, быў фізічна блізкі да яго, слухаў, як ён гаворыць. Дзесятак гадоў назад, незадоўга да вызвалення Кеніі, калі яшчэ дзейнічалі атрады «Маў–Маў»: так што аднойчы ўначы, калі я сам блукаў па Найробі, мяне падабрала англійская паліцэйская машына і прымусова завезла ў гатэль.

Аднойчы пасля абеду я блукаў, – натуральна абсалютна вольны ад пачуцця асцярожнасці, якую я з ідэалагічных матываў хацеў праігнараваць, – па горадзе і патрапіў на перыферыю, на адну з вялікіх афрыканскіх плошчаў, якія для мяне ёсць найпрыгажэйшымі мясцінамі ў свеце. На такой плошчы, што месцілася ў катлавіне, сабраліся на сход сотні і сотні людзей народнасці кікую. Невысокі памост, з якога выступаў аратар, знаходзіўся ў глыбіні закругленай плошчы, у цэнтры вялізнага негрыцянскага натоўпу. Аратарам быў якраз Том Мбоя і прамаўляў з жарсцю, уласцівай гістарычнаму моманту. Кенія была напярэдадні набыцця незалежнасці пасля краывапралітнай партызанскай вайны. «Угуру!» – крычаў ён раз-пораз. І натоўп адказваў радасным хорам: «Угуру!» («Свабода!»). Я прысеў пасярод гэтага вялізнага натоўпу, і адразу тыя, што сядзелі побач, пасунуліся, каб я, адзіны белы сярод іх, мог усесціся ямчэй. Калі потым даведаліся, што я італьянец, то былі не ў сабе ад задавальнення. Чаму? Таму што італьянцы, як і яны, вялі супраць немцаў партызанскую вайну. Мне сказаў гэта просты рабочы. Ніколі б не спадзяваўся пачуць ад яго гэтыя словы. Мы былі, такім чынам, братамі.



Пасля абвяшчэння незалежнасці Том Мбоя стаў умераным палітыкам і ўрэшце схіліўся на неакаланіялісцкія пазіцыі. Магчыма з тае пары яго сталі падтрымліваць англічане. Яго забіў малады негр (які дзесяць гадоў назад быў дзіцем) у імя новай свабоды.

Усе вызваленчыя войны маюць гэты сумны канец. Па ўсім свеце, якую краіну не ўспомніць, убачыш змрочны краявід вызваленчых войнаў, што скончыліся расчараваннем і рэстаўрацыяй. Ці будзе таксама ў В'етнаме: чаго іншага можна чакаць там? Дык які ж сэнс тады жыць, калі не быць вернымі адчайна і магчыма з тупой упартасцю першай і нязграбнай ідэі свабоды, якая ўздымае нас на барацьбу з самай маладосці?

## Перадгістарычныя сляды

Гляджу на знакамітую фатаграфію са слядамі чалавечых ног на паверхні Месяца (ужо састарэлую фатаграфію ў журналісцкім сэнсе). Не магу сказаць, што са мной адбываецца. Добра супрацьстаю гэтаму, нават працягваю з раўнадушнасцю рабіць тое, што рабіў раней: але мяне ахоплівае свайго роду галавакружэнне, пачуццё адкрыцця. Успамінаю і пішу цытату з Пруста: «intermittence du coeur» («збоі сэрца»): і я пішу гэта, таму што сапраўдная гаворка ідзе пра «intermittence du coeur». Гэта фатаграфія, аднак, нагадвае мне іншыя вобразы. Гэтыя сляды нагадваюць мне іншыя сляды. Справа не ў навіне: мне не адкрываецца нешта незнаёмае. Справа ў тым, што я яшчэ раз вяртаюся назад. Бедны старажытны чалавек, яшчэ амаль звер, які пакінуў нам сляды на зямлі! Яго шлях на гэтым свеце не пакінуў аніякіх іншых сведчанняў. Можа, якраз след або знак тваёй няўклюднай, зверападобнай працоўнай рукі. Няшмат што больш злучае нас з чалавекам – далёкім братам, і напаўняе гарачым і сапраўдным пачуццем спагады - чым ягоныя сляды, нязначныя і мізэрныя. Тут чалавек пакінуў пяцьдзесят тысяч год назад свае косці. Тут чалавек пакінуў сем тысяч год назад сціплы чырванаваты сілуэт аленя... Верны камень рупліва захоўвае гэтае нішто на працягу тысячагоддзяў.

Адбіткі падэшваў, пакінутыя людзьмі на Месяцы, даюць тое ж спагадлівае разуменне жыцця, якое прамінула ў неймавернай мінуўшчыне. Яны вярнуліся на зямлю, памерлі, на іхнія марныя жыццёвыя справы наваліліся тысячагоддзі: а вось тут іхнія сляды, знакі іхняга шпацыру. Так, яны дабраліся сюды пасля бясконцых блуканняў. Што кранае ў шпацыры амерыканцаў па Месяцы, такім празаічным і трохі бязглуздым, дык гэта не будучыня, а мінулае: наканаванне кожнай будучыні стацца мінулым, калі яна яшчэ не настала. І бясконцае паўтарэнне ўпартым чалавекам гэтых настойлівых пошукаў навобмацак – якія, губляючы ў трывалым знаку магічную працягласць і завершаны сэнс, раптам даюць дакладнае вымярэнне яго велічы і малечы – натхняе таго, каму наканавана жыць сёння (з верай у сваю бессмяротнасць або меншую смяротнасць сярод іншых людзей), натхняе перад аблічам невычэрпнай і паэтычнай ёмістасці чыстай сучаснасці, непазбыўнай, а значыць, незаменнай.

Гэтыя адбіткі буйных чалавечых ног скіраваны ў адзін бок: ісці і дайсці. Да і пасля няма нічога, што можна было б рэканструіраваць. Адчуваю, як сэрца замірае ў мінулым, і гэта суцяшае.

## На мосце ў 43-м годзе

Вось ён, гэты мост... Мінаю яго прыспешана. Сцямлю, што справа ідзецца пра «знакаміты» мост, толькі перайшоўшы яго. Успрымаю ўсё так раўнадушна, што амаль пацiскаю плячыма, ахоплены свайго роду ачмурэннем раўнадушнасці.

Гаворка ідзе пра мост паблізу Ліворна па дарозе з Пізы.

9 або 10 верасня 1943 года.

Вось гэта я: пад адхонам, апрануты жаўнерам. Вакол мяне мой узвод або цэлы полк (не памятаю, не памятаю).

Мы заляглі ў хмызьняку, на беразе не ведаю, якой ракі або каналу (як у сне). Бачу вакол сабе іншых, што сталіся незразумелымі выявамі сабе саміх.

Не магу ўявіць, што адбываецца ў іх: якія пачуцці яны перажываюць у гэты момант? Настаў час вялікіх прызнанняў. Але ніхто не мае часу на прызнанні; або не мае магчымасці.

Я напалоханы, гэта праўда. Баюся смерці. Страх так сціскае мне ўсё нутро, што я проста не ведаю, як прыхаваць гэта. Так, уяўляю сабе, я таксама на фоне іншых ёсць выява без пачуццяў. На самой жа справе я ціхамірна разлёгся ў засені хмызьняку, куды закінуў мяне лёс, і грэюся на сонейку.

Над узбярэжжам (колераў позняга, яшчэ цёплага лета) чуюцца рэгулярныя мінамётныя стрэлы.

Мы таксама ўзброеныя (узброеныя? толькі вінтоўка ды адна ручная граната): загадана змагацца. Супраць каго? Супраць немцаў, зразумела. Але мы не надта ўпэўненыя.

Тры або чатыры афіцэры, што побач – яшчэ ўчора яны пампезна вучылі нас, як перад атакай трэба крычаць «Савоя!» (sic!) – цяпер паапускалі крылы і відавочна баяцца больш за нас.

Мінаюць гадзіны.

Пад'язджаюць два нямецкія танкі, спаўзаюць па адхону ў хмызьняк сярод нас. Нейкае замяшанне, і праз імгненне мы сцямілі, што здаліся ў палон. Афіцэры загадваюць нам здаць зброю пяці або шасці нямецкім жаўнерам, што сядзяць на танках.

Па чарзе мы падыходзім, каб здаць зброю.

Мой сябра Касцільёні (які хадзіў са мной у ліцэй Гальвані ў Балонні), злавіўшы мой позірк, глянуў на мяне. Я зноў зірнуў на яго, а ён на мяне.

Я яшчэ фізічна вельмі моцны, але быў тады далікатным паэтам, герметычным - як кажуць фрыульцы на сваёй мове. А ён не быў і моцным. Крохкі і безабаронны хлапец з добрай сям'і. Мы глядзім адзін на аднаго, як я ўжо сказаў, два слабыя інтэлектуалы, антымілітарысты, якія за некалькі дзён вайсковай службы зрабілі ўсё, што маглі зрабіць антымілітарысты, палемісты і ідэалісты. Чытаем адзін у аднаго ў вачах тую ж думку.

Ну не, не дачакаецеся! Здаць зброю? Гэтым чатыром немцам, што ўхмыляюцца? Ніколі гэтага не будзе. Не падпарадкуемся.

Па крыёму мы хаваемся сярод хмызьняку і хаваем там вінтоўкі. Што да ручных гранат, то іх кідаем у яму.

Потым нас шыхтуюць у калону і гоняць, як статак авечак, з афіцэрамі з-пад «Савоі!», абяззброеных, разам з жаўнерскай масай, у бок Ліворна.

Я і Касьцільёні ўсё паглядалі адзін адному ў вочы не надта ўпэўнена. Раптам страляніна. Настаў момант невымоўнага страху. Мы кідаемся ў роў на ўзбочыне дарогі. Калі страляніна скончылася і астатнія выпрастоўваюцца, каб ісці далей, то я, Касцільёні ды яшчэ двое-трое застаемся, схаваўшыся ў рове. Полк ужо далёка, шэра-зялёны статак. Я так і не даведаўся пра ягоны лёс.

Мы вылазім з рову і шыбуем у адваротны бок, сярод палёў на поўнач ад Ліворна. Вінаград саспеў, сонца высока, спяваюць цыкады.

**Пераклаў Валеры БУЙВАЛ**

# Рэдактар «Зьвестуна»

Да генерала Булак-Балаховіча дайшла чутка, што да ягонага войска прыбіўся слынны пісьменнік – нашанівец Ядвігін Ш. – Антон Лявіцкі. Гэтая вестка двойчы была прыемная генералу. Ён сам сябе пачуваў крыху літаратарам, і яму было за гонар мець пры сваім штабе масцітага пісьменніка. Гэта адно, а другое, генерал разумеў сілу слова, яго мабілізацыйнасць. Яму даўно карпела, каб хто пры штабе ўзяўся выдаваць хоць невялічкую, але баявую газету. І вось сам бог прыслаў да яго Ядвігіна Ш



Генерал запрасіў слыннага пісьменніка ў свой штаб. Пацікавіўся, як той пачувае сябе, як пераносіць паходы, пераходы. На што Ядвігін Ш. адказаў, што для яго паходнае жыццё – рэч звыклая з малых гадоў, а дзеля волі і незалежнасці Беларусі ён гатовы на любую ахвяру.

– Гэта добра! – адгукнуўся генерал. – Нам акрат такога чалавека нестае, – і прапанаваў Ядвігіну Ш. у самы сціплы час наладзіць пры штабе выданне невялікай газеты. Ці зможа? Ці пад сілу яму гэта будзе?

Ядвігін Ш. без ваганняў прыняў прапанову. Ён меў вялікі вопыт працы ў газеце. Быў літаратурным рэдактарам, загадчыкам аддзела, тэхнічным рэдактарам. Ведаў і карэктарску. працу. То як быццам усё было знаёмае, вядомае. І ўсё ж Ядвігін Ш. хваляваўся. Газета мелася быць востра палітычная, непрымірэнча ваяўнічая. Нездарма ж яна выдавацца мелася пры штабе. І грыф яе быў выразна акрэслены: «Бюлютэнь Беларускага палітычнага камітэта пры народнай арміі генерала Булака-Балаховіча».

Ядвігін Ш. доўга ламаў галаву, якую назву даць гэтаму новаму выданню. Перабраў шмат варыянтаў – і ўсе яны не зусім падыходзілі для газеты, дэвізам якой павінна быць вызваленне Беларусі. І раптам яму прыгадалася слова «зьвястун».

Зьвястун! Вястун! Гэта ж амаль тое, што і Зьвеставанне, добрая вестка. Дык гэта ж акурат тое, што яму і трэба! На зямлю, на родную зямлю, спакутаваную, згараваную, знядбаную сыходзіць добрая вестка...

Назва газеты нейкім чынам асацыявалася з постаццю самога генерала. Гэта ж ён узяў на сябе клопат разам з сваім войскам дбаць Бацькаўшчыне волю і незалежнасць. Ядвігін Ш. быў упэўнены, што назоў газеты – «Зьвястун» – упадабае і генерал. І не памыліўся. Булаку-Балаховічу і напраўду вельмі да душы прыдалася назва газеты.

У штабе пачалі чакаць першага нумара «Зьвястуна». І неўзабаве прычакалі. Першы нумар «Зьвястуна» выйшаў пятага лістапада 1920 г. Пачынаўся з звароту «Да жыхароў Беларусі». Гэта быў невялікі, на дзвюх старонках, бюлютэнь Беларускага палітычнага камітэту пры народнай арміі. Яго і пашырылі найперш сярод жаўнераў народнага войска. Але не толькі сярод іх. Да «Зьвястуна» цягнуліся рукі ўсіх, хто жадаў волі і незалежнасці роднаму краю. Асабліва прагла гэтага лістка моладзь. «Зьвястун» клікаў яе ўліваццa ў народнае войска, ісці свой край бараніць...

«Зьвястун» выходзіў колькі тысячным накладам. Звычайна жаўнеры народнага войска і духу на марш бралі з сабою і «Зьвястуна». Праходзячы праз мястэчкі і вёскі, яны раздавалі газету народнага войска налева і направа. Ядвігін Ш. не адзін раз быў сведкам, як людзі прагна разбіралі ягонага «Зьвястуна». Усяго Ядвігіну Ш. удалося выдаць пры досыць складаных палявых варунках чатыры нумары свайго «Зьвястуна». Чацвёрты нумар пазначаны 25-ым лістападам 1920 г. Галоўная дзейная асоба ўсіх чатырох нумароў, вядома ж, быў генерал Булак-Булаховіч. Яго «Зьвястун», ягоныя аўтары называлі генерала «бацькам», «атаманам», «правадыром».

Кожнае слова ў «Зьвястуне» пранікнута вялікай любасцю да Беларусі. Але ў гэтых словах адначасова і рашучае непрымірэнне з бальшавікамі, з бальшавізмам. Ядвігіну Ш. іншы раз яго «Зьвястун» нагадваў «Мужыцкую праўду» Кастуся Каліноўскага ў новым часе. Усе публікацыі ў «Зьвястуне» безыменныя, і цяжка сказаць, каторыя з іх пісаў Ядвігін Ш., а каторыя нехта іншы. Але ўсе яны – і больш спакойныя, разважлівыя, і больш рашучыя, жорстка ваяўнічыя – прапушчаны праз сэрца і душу рэдактара «Зьвястуна». Антон Луцкевіч дакараў Ядвігіна Ш., што той гэтак безразважна звязаўся з Булак-Балаховічам.

Што ж заганнае ўбачыў галоўны ідэолаг беларускай дзяржаўнай незалежнасці ва ўчынку Ядвігіна Ш.? Войска Булака-Балаховіча якраз і павінна было, паводле яго дэвізу, сцвердзіць гэтую незалежнасць! На гэты дэвіз і падаўся Ядвігін Ш. І раптам яму за гэта дакор. Што ж гэта за дакор? І чаму?

Антон Луцкевіч вельмі, мабыць, ашчаджаў самабытны талент Ядвігіна Ш. і шкадаваў, што такі самабытны пісьменнік пакваліўся на дэкларатыўна-лозунгавую газету... Гэтую працу мог хтось іншы зрабіць. А Ядвігін Ш. павінен быў ствараць мастацкія палотны, мастацкія абразкі...

А што Ядвігін Ш.? Ці шкадаваў ён сам хоць калі за сваё рэдактарства ў «Зьвястуне»? За сваё збліжэнне з Булак-Балаховічам? А пэўна што не!

Булак-Балаховіч быў малады, няўрымсліва энергічны, авантурна рашучы. Ядвігіну Ш. падабалася гэтая ягоная рашучасць. Яна нагадвала яму рашучасць Кастуся Каліноўскага, студэнцкай моладзі ў Маскве, ягонага суседа, паўстанца 1863 года Зыгмунта Чаховіча. Пра змагароў 1863 года Ядвігін Ш. чуў яшчэ хлопчыкам пад страхою Марцінкевічавай хаты з расповядаў самога пісьменніка і ягоных дочак. З усяго гэтага Ядвігін Ш. і сам стаўся рашучы. Іншым ён і не мог быць, і інакш ён не мог зрабіць, як зрабіў. Згадваюць, разам з войскам Булак-Балаховіча быў у Пінску, Лунінцы...

Восенню 1920 года на беларускай палітычнай арэне з'явіўся Беларускі палітычны кабінет. Галоўным ідэолагам гэтага кабінета стаў ніхто іншы, як Ядвігін Ш. Яму дужа ж хацелася, як мага хутчэй наблізіць сваю мару: убачыць пры сваім жыцці Беларусь вольнай і незалежнай. Падчас рэдагавання «Зьвястуна» яму павярнула на шосты дзесятак. Гады гэтыя самі па сабе былі яшчэ досыць памяркоўныя. Але падводзіла ўжо здароўе: бралі задышкі, адгукнулася старая хвароба – сухоты, і Ядвігін Ш., наталіўшыся вайсковымі паходамі, неўзабаве вяртаецца ў Вільню.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

## Карпілаўскія раны

Пераважную большасць сваіх твораў Ядвігін Ш. вынасіў у любай Карпілаўцы. Ён любіў свой фальварак, дбаў пра ягонае хараство і гармонію з навакольнаю прыродаю. Неяк ён прызнаваўся аднаму свайму госцю: «Мне зайздросцяць нават вялікія паны!» Але не стала гаспадара. Прыйшлі бальшавікі і перайначалі гэты край. Спачатку раскідалі карпілаўскае гняздо Лявіцкіх – іхны гожы дамок. Затым пассылалі на Сібір пісьменнікавых сыноў. Неўзабаве Карпілаўку апанавалі вайскоўцы. Балазе, паблізу была савецка-польская мяжа. Пры самай гары збудавалі дзот. Той дзот і зараз на Карпілаўскай сядзібе як бяльмо на воку, як якоесь непаразуменне сярод сядзібных прысадаў. Далей – болей. Тутэйшы калгас паглядзеў і прызнаў, што пісьменнікава сядзіба вельмі прыдатная для фермы. Нарабілі загарадак, выгарадак. Нагналі ў іх бычкоў, цялушак. Але калгасныя цяляткі – не самае горшае на пісьменнікавай сядзібе. У 1980 годзе пачалі ў суседніх з Карпілаўкай Харужанах забудоўваць Акопскі Купалаўскі філіял. І от пад будову бетонкі з Карпілаўкі ў Харужаны раскапалі векавую Карпілаўскую гару. Гэта дало падставу навакольным дачнікам ператварыць пісьменнікаву сядзібу ў звалку. Якога толькі зараз ламачча не вязуць на сядзібу таго, хто клікаў з цемры да святла, хто дбаў пра асвету роднай старонкі! І ніхто з тутэйшай улады не робіць ніякіх захадаў, каб аберагчы, ашанаваць запаветны кут! Праўда, такую спробу зрабіў колішні дэпутат, мастак і пісьменнік Сяргей Давідовіч, які мае паблізу сядзібы Лявіцкіх лецішча. Ён пры заездзе на сядзібу ўсталяваў на дубовым развілку памятны знак. Але ў таго знака хтось ці з тых, у каго рукі свярбяць, надламалі правае крыло... І возяць пад раскапаную гару тутэйшыя дачнікі на святую зямлю сваё смяццё, хоць і чулі, што прэзідэнт абвясціў навесці парадак на зямлі. От і наводзім...



**Дуб-дзядуля**
*(скарга Ядвігіна Ш.)*

**На канцы майго шнура**
**Была страшэнная гара.**
**На ёй рос дзядуля-Дуб,**
**Быў ён вельмі ўсім люб.**
**І хтось знявечыў яго,**
**Прыгажуна старэнькага майго.**
**Выпаліў камель унізе ў ім,**
**Дуб у печ ператварыў...**
**А дубу таму гадоў пяцьсот,**
**Ён ведаў увесь Лявіцкіх род.**



**Сержык Чылікін-Садэльскі**

*Крынічка*

**Крынічка-крынічка,**
**чыстая вадзічка,**
**Як жыла, што рабіла?**
**Я плачу, я плачу.**
**Дабрыні сярод людзей мала бачу.**
**Сядзібу пісьменнікаву**
**Вакол мяне смяццём завалілі,**
**Дубы мае папалілі.**
**На мяне цэментавы круг узвалілі.**
**От таму я і плачу,**
**што дабрыні мала бачу...**

# Пётра СЕРГІЕВІЧ: Творчы лёс мастака

**Арсень ЛІС**

Працяг. Пачатак у № 23 за 2003 г.

Будучыя мастакі, аднак, што як творцы сфарміраваліся ў даваенны час у Заходняй Беларусі, у Вільні, Пётра Сергіевіч, Язэп Горыд, Міхал Сеўрук, Кузьма Чурыла, Эдуард Кучынскі, Валянцін Рамановіч яшчэ толькі пачыналі або адно збіраліся пачынаць мастацкія штудыі на «wydziale sztuk pieknych» Віленскага універсітэта. Было, пэўна, нешта лёсавызначальнае, правіднае для Пятра Сергіевіча да цэлай генерацыі віленскіх мастакоў у тым, што найгалоўнейшы для іх факультэт ва універсітэце, аднойленым тут амаль праз 90 год пасля закрыцця яго царызмам, узначаліў мастак і сын тутэйшай зямлі Фердынанд Рушчыц.

Добра, што гэта сталася ў Вільні, – казаў, згадваў Пётра Сергіевіч у сябе ў майстэрні на Антокалі госцю з Мінска. І ні то яны, гэтыя словы, былі яго, ні то належалі Фердынанду Рушчыцу, перад якім ён, цяпер пасівелы майстра, паўвека таму, у 1919-ым, стаяў, нясмела пераступіўшы парог мастацкага аддзела універсітэта ў Бернардынскім садзе...Мастак-легенда, дэкан факультэта Рушчыц дробнай апекі над студэнтамі не чыніў. У прасторнай студыі-майстэрні, падыходзячы ад аднаго да другога студыйца, што шчыравалі пры мальбертах, кідаў адну-другую заўвагу, накшталт «Вылазце з-пад коўдры, вальней дыхайце». У вашай карціне не хапае баса...»

Любіў, калі на палатніне быў схоплены зменлівы момант, жывы рух у прыродзе, паднебнай высі, калі фарбамі выяўлялася веснавое разняволенне матухны-зямлі...

Вучыў схопліваць натуру, што называецца, на ляту, адлюстроўваць першае ўражанне, непасрэдны настрой. У гэтым заключаўся першы творчы прынцып прафесара-Мастака. На студэнцкую моладзь уплываў сваімі гутаркамі, развагамі аб мастацтве. Жыў паводле дэвізу «Праўда, Дабро, Хараство!» Уласныя думныя памкненні, акрыленасць душы перадаваў неафітам. Творчым неспакоем папраўдзе задаваў высокі тон духоўнаму жыццю на факультэце ды і ва ўсім універсітэце.

Бенедыкт Кубіцкі, вучань І.Рэпіна, выкладаў рысунак і партрэт. Манеру пісьма прафесар меў сухаватую. Але жывую цікавасць да тыпажу, прыёмы выяўлення чалавечага характару сродкамі жывапісу будучым мастакам перадаў. Сергіевіч навучаўся ў яго студыі тры гады. Лекцыі па гісторыі мастацтва чытаў Ежы Ромер, выхадзец са знанага на Віленшчыне інтэлігентнага роду. Курс скульптуры вёў Балеслаў Бальзукевіч, знаўца краю, збіральнік яго архітэктурных памяткаў. Акрамя жывапісу, графікі, скульптуры на мастацкім факультэце вывучаліся асновы будаўніцтва, выдавецкая справа, літарніцтва, фатаграфія. Адзін год, на большае не хапіла заробленых сродкаў, як вольны слухач Сергіевіч у 1924–1925 гг. наведваў класы Галоўнай школы мастацтваў у Кракаве. Прафесар Кракаўскай акадэміі Юзаф Панкевіч падкарэгаваў эскізную манеру свайго віленскага выхаванца: быў вельмі уважлівы да мастацкай тэхнікі. З усмешкай супыняў тэмпераментныя, проста арліны набег студыёзуса з Вільні на палатно: «Нашто так шмат траціць энергіі. Натура ж не ўцячэ», – казаў Сергіевіч.

Па звароце з Кракава Пётра Сергіевіч яшчэ тры гады (1926–1928) займаўся ў Віленскім універсітэце. Курс жывапісу праходзіў у студыі Слендзінскага. Прафесар Слендзінскі, сын і ўнук мастака, палоннік эстэтыкі эпохі Адраджэння, моцна дбаў пра форму. У сваім жывапісе імкнуўся да скульптурнай выявы вобраза. Такую ж мастацкую стылістыку прышчэпліваў і гадаванцам студыі, што наглядна можна назіраць на ранніх творах Кузьмы Чурылы і Міхала Сеўрука.

Пётра Сергіевіч к часу навучання ў Слендзінскага як мастак у нейкай меры ўжо патрапіў сфарміравацца. Пра гэта, пэўна, досыць пераканаўча можа пасведчыць партрэтная выява «Галава жанчыны», або «Цётка Агата» паводле найменьня партрэтаванай (1922 г.). Удала схопленыя, перададзены на палатне народны тып, характар. Твар пажылой жанчыны грубаваты, але добразычлівы, з разумнай хітрынкай. Каларыт атрымаўся арганічны абліччу, насычаны стрымана кантрастнай каляровай гамай.

У 1926 годзе Сергіевіч піша, мабыць, першую сваю самастойную кампазіцыю «Рабочыя». З'явілася яна не выпадкова. Петраку Сергіевічу давялося рана пачынаць самастойнае жыццё, выправіцца ў свет. Яшчэ не меў і поўных семнаццаці, як услед за землякамі са Стаўрова ранняй вясной 1917-га выправіўся на заработкі ў Пётраград. Працаваў спачатку ў майстэрні па вырабу вогнетушыцеляў. Плацілі мала, выжыць было цяжка. Праз пару месяцаў перабраўся на завод Дзяржзнака. Хадзіў на вячэрнія курсы для рабочых, на якіх урок малявання вёў мастак Андрэеў. Заўважыўшы ў русявым рабочым хлопцы цягу да рысунка, адкрыў яму мастацкія здабыткі Рускага музея. Першыя ўражанні ад «Апошняга дня Пампеі» Брулова і «Фрыны» Сямірадскага засталіся ў мастака на ўсё жыццё. У 1919-ым, калі Пятрусь вярнуўся з галоднага Піцера на радзіму, старэйшы брат-чыгуначнік Юзаф уладкаваў яго рабочым у дарожны аддзел. Зноў бегаў на вячэрнія курсы, па газеце вывучаў польскую мову, на кароткі час трапіў быў у Вольную школу рысунка і жывапісу літоўскага мастака А.Варнаса. З умацаваннем незалежнасці Літоўскай дзяржавы Варнас падаўся ў Коўна, і тады заставалася ў Сергіевіча адна дарога здабыцця сістэмнай мастацкай адукацыі – Віленскі універсітэт. «Добра, што гэта сталася ў Вільні», – не раз з удзячнасцю ўспомніць Пётра Сергіевіч словы самавітага апекуна мастацкай моладзі Фердынанда Рушчыца.

З лета 1928 года, як праз гады казаў Пятро Аляксандравіч, «трэба было садзіцца на свайго каня»: універсітэцкі курс быў закончаны, пачынаўся перыяд самастойнага жыцця-існавання ў мастацтве, беларускай культурнай прасторы. Для гэтага напачатку неабходна было элементарнае: агорадзь куток-жытло, хоць нейкі паддашак для мастацкай працы.

Тым часам усё гэта было няпроста. За гады вучобы занядбаў вайсковую павіннасць. Баючыся адказнасці, не надта спяшаўся з прапіскай. Начлег меў, дзе здаралася. Часам даводзілася начаваць у званіцы касцёла св. Яна. Летам – лацвей: з'язджаў у вёску. У Стаўрове не было ўежна: Сергіевічы не мелі зямлі. У маці была адно хата і агарод. Выручала адвечная сялянская працавітасць ды лес з яго ягаднікамі і грыбнымі мясцінамі.

І што важна маладому мастаку – натура была пад рукамі. Зарысоўваў, маляваў суседзяў, вяскоўцаў, лавіў на эцюдах розны – дзённы, ранішні, вечаровы – настрой прыроды надазёрнага краявіду. Партрэты землякоў алоўкам, сангінай канца 20-х – пачатку 30-х гадоў Сергіевіч называў па імёнах партрэтаваных «Данька», «Зося», «Станіслаў», «Жэня», а яшчэ паводле спецыяльнасці, жыццёвага занятку мастацкай мадэлі: каваль, бондар, карчакоп, дрывасек, дарожны майстар, або, зыходзячы з дамінантнай рысы характару чалавека – «Весялчак». Сярод іншых – «Вясковы актывіст з Жойдзішак». З вясковага побыту былі і першыя тэматычныя карціны Сергіевіча – «Залёты», «Веселле». У некаторых з іх досыць пераканаўча перададзены, напрыклад, атмасфера сямейнай урачыстасці, стыхія народнага гуляння з выхадам на псіхалагічныя характарыстыкі вобразаў. Досыць спрактыкаваная мастакоўская рука адчуваецца ў алейным партрэце «Аляксандра Сергіевіч» (1929). На ім паказана немаладая жанчына, што спакойна і разам з тым удумліва-патрабавальна глядзіць з палатна. У рысах аблічча партрэтаванай пазнаюцца некаторыя рысы самога мастака ды згадваецца народнае вераванне аб тым, што сын, падобны на маці, павінен быць шчаслівым.

Памалу жыццё ўсталёўваецца. Знаёмы мастак-віленчук дапамог Сергіевічу з першай у яго жыцці майстэрняй. Гандлёвая кан'юнктура была слабая, і асобныя магазінная прызначэння памяшканні пуставалі. Сергіевічу ўдалося асвоіць адно такое закінутае збудаванне па вуліцы Ясінскага. Высачэзная столь на пяць метраў, адна сцяна на вуліцу – суцэльнае шкло, вітрыны. Мастак развесіў па перыметры свае малюнкі, карціны, партрэты. Тут меў і начлег, праўда, даводзілася таіцца ад вартаўніка.



Нарэшце ў 1932 годзе дзякуючы шчасліваму выпадку, Сергіевіч здолеў прапісацца ў горадзе, а гэта ўжо давала магчымасць уступіць у «Таварыства незалежных мастакоў» і атрымаць права выстаўляць свае творы на выстаўках. К гэтаму часу П.Сергіевіч ужо шчасліва прайшоў курс радзімазнаўства ў Беларускім студэнцкім саюзе, актыўна дзейсным цягам 20–30 гг. пры універсітэце імя Стэфана Баторыя. З канца 20-х Пётра Сергіевіч актыўна далучаецца да беларускай культурна-грамадскай працы. Малады мастак становіцца чальцом Беларускага навуковага таварыства ў Вільні, асяродка, які канцэнтраваў у сабе інтэлектуальныя сілы нацыі. У адрозненне ад іншых беларускіх арганізацый, аб'яднанняў, БНТ валодала матэрыяльнай культурнай маёмасцю. У яе распараджэнні быў багаты кнігазбор, які складаўся з бібліятэкі-чытальні «Знание» колішняга старшыні Беларускага музычна-драматычнага гуртка Барыса Дані ловіча і архіву і кніг славутага беларускага этнографа Еўдакіма Раманава. БНТ мела Беларускі музей, унікальную калекцыю помнікаў, рэчаў, прадметаў айчыннай гісторыі, этнаграфіі і культуры, запавешчаную грамадству вядомым беларускім палітычным дзеячам і навукоўцам Іванам Луцкевічам. Для мастака, які думкай імкнуўся пранікнуць у мінуўшчыну свайго народа, пазнаць яго духоўныя набыткі, музей канцэнтраваў неацэнныя скарбы.

Маладому мастаку для інтэлектуальнага росту нямала давала ўжо само абяртанне ў гэтым неафіцыйным беларускім навуковым асяроддзі. У чатырох секцыях БНТ стала чыталіся рэфераты па гісторыі Беларусі, літаратуры, мове, музыцы. На пасяджэннях БНТ Сергіевіч атрымаў магчымасць публічна выказаць свой погляд на народныя вытокі беларускага мастацтва, сваё разуменне яго задач на сёння.

У 1930 г. Сергіевіч разам з Язэпам Драздовічам і навукоўцамі ўдзельнічае ў арганізацыі ініцыяванай БНТ выстаўкі. Яшчэ годам раней як мастак-дэкаратар ён афармляе залу, у якой БНТ сумесна з Таварыствам беларускай школы ўрачыста адзначалі 10-я ўгодкі беларускай сярэдняй школы. У лёгкай манеры намаляваны Пятром Сергіевічам заднік – выява імклівага серабрыстага вершніка «Пагоні» прыдавала асветнай імпрэзе ўрачыстасці і адпаведнай ідэйнай дамінанты.

На такім светлым выяўленча-мастацкім фоне прэзідыум сходу, педагогі-асветнікі, дзеячы беларускага культурна-грамадскага руху Антон Неканда-Трэпка, Сяргей Паўловіч, Рыгор Шырма глядзеліся асабліва самавіта і святочна-ўрачыста. Музейныя зборы і перш-наперш калекцыя сфрагістыкі давалі нямала матэрыялу для мадэлявання беларускай нацыянальнай сімволікі. Варыянты графічнай выявы гістарычнага Вершніка ў інтэрпрэтацыі Пётры Сергіевіча з'яўляюцца у перыядычных выданнях. У органе Беларускага студэнцкага саюзу часопісе «Студэнцкая думка» № 1 (12) за 1929 год – як элемент афармлення вокладкі. Больш дасканалы, нават вытанчаны варыянт Сергіевічавай «Пагоні» арганізуе вобразны цэнтр вокладкі гэтага ж часопіса за 1930 год. А ў № 13-ым студэнцкага часопіса на вокладцы рэпрадуцыраваны лінарыт П.Сергіевіча «Вясляр». Пазней удасканалены варыянт мастаковага «Весляра» глядач убачыць на вокладцы месячніка маладых радыкалаў часопіса «Крыгалом», закрытага польскай адміністрацыяй на 1-ым жа нумары. Алегарычны вобраз Весляра, што змагаецца з воднай стыхіяй, сваёй вобразнай ёмістасцю, ідэйнай змястоўнасцю цягам гадоў хвалюе мастака. Графічны варыянты «Весляра» Сергіевіча сустракаюцца ў месячніку «Нёман» за 1932 год, першыя нумары якога выйшлі пад рэдакцыяй самога Мастака пры апоры ў справе выдання на Эдварда Будзьку.

У пяці нумарах «Нёмана» з'явілася шэраг рэпрадукцый з твораў П.Сергіевіча, выкананых у рознай тэхніцы, алоўкавых рысункаў «Галава юнака», «Галава маладога мужчыны», новы варыянт кампазіцыі «Залёты», лінарыты «Пагоня», «Каласы», «Малайка» і інш.

*Працяг будзе*

# Беларуская эміграцыя: зьмена пакаленьняў

У гутарцы, арганізаванай Беларускай рэдакцыяй Радыё Свабода, бралі ўдзел журналіст Ганна Сурмач, Івонка Сурвілла, (Канада), Язэп Паўловіч (Нямеччына), Зянон Пазьняк (Польшча), Ігар Лазарчук (Бэльгія).

***Свае меркаваньні пра сучасную хвалю эміграцыі зь Беларусі выказвае сп. Івонка Сурвілла, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, яна сама належыць да паваеннай эміграцыі.***

**Івонка Сурвілла:** Зь Беларусі цяпер ад'яжджаюць людзі адукаваныя, здольныя, ініцыятыўныя. Гэта вялікая трагедыя для нашага народу, што цяжкія ўмовы жыцьця, створаныя штучна цяперашнім рэжымам, змушаюць такіх людзей пакідаць свой край ды шукаць хлеба на чужыне. Апынуўшыся часта першы раз у жыцьці вольнымі, беларускія эмігранты хутка адаптуюцца да новых умоваў жыцьця. На жаль, шмат хто зь іх не ўяўляе сабе, якую вялікую сілу мае вольны чалавек у вольнай краіне. Шмат хто яшчэ па-старому баіцца браць удзел у палітычным жыцьці, не разумее, што ў вольным сьвеце быць палітычна дзейным, старацца дапамагчы сваёй Бацькаўшчыне асягнуць дэмакратычны лад жыцьця ўважаецца поўнасьцю нармальным.

Сёньня хацелася б, каб кожны новы беларускі эмігрант стаўся таксама палітычна дзейным ды выкарыстаў магчымасьці, каб дапамагчы сваёй Бацькаўшчыне стацца вольнай, захаваць сваю незалежнасьць, асягнуць агульнаэўрапейскія ўмовы жыцьця. Моцна жадаю, каб кожны новы эмігрант, здаўшы сабе справу – да якой ступені яму дарагі страчаны край, далучыўся да тых, хто ўжо змагаецца за лепшую долю беларускага народу. А калі Беларусь станецца эўрапейскаю дэмакратыяй, каб быў гатовы вярнуцца на Бацькаўшчыну са сваім новаздабытым дасьведчаньнем ды пачаць адбудоўваць усё зьнішчанае.

**– Сп. Івонка, але тут паўстае пытаньне і пра захаваньне беларускай прысутнасьці ў сьвеце, пра захаваньне таго, што было зроблена пасьляваеннай эміграцыяй у замежжы?**

**Сурвілла:** Усе асяродкі, дзе ёсьць беларусы, трэба абавязкова захаваць, бо гэта ёсьць наша сіла на Захадзе. Вельмі хацелася б, каб ствараліся новыя беларускія арганізацыі ў краінах, дзе жывуць цяпер беларусы. Напрыклад, Нямеччына. У сучасны момант там яшчэ няма арганізацыі, якая аб'ядноўвала б беларусаў Нямеччыны, хаця там маем некалькі сяброў Рады. Нямеччына займае вельмі важнае месца для Беларусі і з пункту гледжаньня эканамічнага і палітычнага.

Таксама Францыя мяне моцна перажывае. У Францыі засталіся амаль толькі старэйшыя, у 40–50 гадох беларусы ў Францыі былі надзвычай актыўныя. У Францыі час ад часу чуваць, што ёсьць беларусы, ёсьць у Ліёне, у Парыжы.Чаму яны не зьбяруцца, не далучацца да нашага слаўнага «Хаўрусу», які існуе каля 80 гадоў?

**– Як Рада БНР супрацоўнічае з новымі эмігрантамі?**

**Сурвілла:** Да Рады БНР належаць даволі шмат новых эмігрантаў, яны вельмі адданыя нацыянальна, моцныя маладыя людзі, якія ўжо ўключыліся ў працу. Хацелася б, каб зь іх бралі прыклад усе іншыя. Радныя цяпер ёсьць у 14 краінах.

Рада БНР стварыла на сэсіі працоўны камітэт, які зоймецца пытаньнямі сувязі з эміграцыяй. Нашая паваенная эміграцыя вельмі шмат зрабіла. Цяпер адбываецца зьмена пакаленьняў. Дзеля гэтага так важна, каб новыя пераймалі працу старэйшых, каб яны пераймалі ідэалы старэйшых, каб яны баранілі беларускасьць так, як мы баранілі больш за паўстагодзьдзе.

Сярод новай эміграцыі значная ча-



стка - палітычная эміграцыя, яны былі актывістамі, лідэрамі ў Беларусі і тут робяцца лідэрамі нашага беларускага жыцьця. Рада БНР ускладае асаблівыя надзеі на гэтую палітычную эміграцыю. Яна мусіць стаць нашым актывам на будучыню.

***Сп. Сурвілла выказала занепакоенасьць сытуацыяй у Нямеччыне, дзе дасюль няма беларускіх арганізацый. Мы зьвязаліся са сп. Язэпам Паўловічам, які ўжо некалькі гадоў спрабуе арганізаваць беларусаў у Нямеччыне.***

**Паўловіч:** Я належу да шэрагаў Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і хацеў стварыць тут суполку. Я жыву ў г. Віен, у ім троху больш за 100 тысяч жыхароў, гэта зямля Паўночная Райн-Вэстфалія. Мы зьбіраліся, прычым не аднойчы, недзе тры разы. У першы раз мы нават аформілі дакумэнты, але каб зарэгістравацца афіцыйна ў сваёй зямлі, я ня мог з такімі дакумэнтамі, бо хлопцы ў асноўным у Бавары жывуць, у Турынгіі, у Брэмэне. Усё гэта вынікае зь нямецкага заканадаўства. Асноўная праблема – гэта нямецкае заканадаўства, што мы ня можам стварыць суполку, калі мы ў розных землях. Каб стварыць нейкую суполку, па мясцовых законах патрэбна, каб з адной зямлі было недзе 7 чалавек. Сабраць 7 актыўных людзей у адным месцы – гэта ня так проста аказалася.

***Старэйшая эміграцыя ў Бэльгіі аказала дзейсную дапамогу новым выгнанцам зь Беларусі ў стварэньні сваіх арганізацый. І што асабліва важна – перадала ім свой вопыт арганізацыі беларускага жыцьця вакол царкваў. Гаворыць арганізатар і старшыня Беларускага цэнтра ў Бэльгіі сп. Ігар Лазарчук:***

**Лазарчук:** Самыя першыя мае кантакты, канечне, былі са старэйшай беларускай эміграцыяй. Яны ўва ўсім мне дапамагалі, як і што рабіць. Паступова да нас далучаліся людзі. Гэта новая эміграцыя складаецца з маладых людзей, 70-75 адсоткаў зь іх – палітычныя эмігранты.

Быў створаны Беларускі цэнтр. Там зьбіраліся ўсе – і маладыя, і старэйшыя. Афіцыйна ён зарэгістраваны 5 чэрвеня 2000 году, адрэса рэгістрацыі ў Антвэрпэне. Гэта гуманітарная арганізацыя, якая дапамагае людзям зь Беларусі лепш інтэгравацца ў бэльгійскае грамадзтва.

У сувязі з тым, што ў Бэльгіі знаходзяцца агульнаэўрапейскія структуры, Эўрапарлямэнт, гэта палітычны цэнтар Эўропы, то мы вырашылі таксама працаваць зь імі, каб дапамагчы нашай Бацькаўшчыне. Мы праводзілі шмат розных палітычных пікетаў і акцыяў. Калі нас запрасілі ў Эўрапарлямэнт, мы там даводзілі нашыя думкі наконт сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

У 2003 годзе была створана яшчэ адна беларуская арганізацыя – Беларуска-эўрапейскі зьвяз, таксама ў Антвэрпэне. Гэтая арганізацыя больш займаецца палітычнай дзейнасьцю. Яшчэ ў нас створана наша грэка-каталіцкая парафія ў Антвэрпэне, адкрыта царква. Існуе таксама беларуская школка. Гэта як бы гуртуе ўсю нашу эміграцыю.

***А цяпер пагаворым са сп. Зянонам Пазьняком, старшынём Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ, які сам належыць да новай эміграцыі.***

**– Сп. Зянон, некалькі месяцаў таму Вы выступілі са зваротам да новай беларускай эміграцыі, ваш артыкул пра ролю новай беларускай эміграцыі быў апублікаваны ў мінулым верасьні ў газэце «Беларус» у Нью-Ёрку. Выглядае, што Вас як палітыка турбуюць тыя зьмены, якія адбываюцца цяпер у беларускім замежжы?**

**Пазьняк:** Ня толькі зьмены ў эміграцыі, галоўнае, зьмены на Бацькаўшчыне, бо эміграцыя адыгрывае вялікую ролю, калі Бацькаўшчына ў небясьпецы. У бліжэйшыя гады ўся адказнасьць, увесь цяжар эміграцыйнай работы ляжа на новую беларускую эміграцыю. Старая эміграцыя паступова адыходзіць. Адбываецца зьмена хваляў эміграцыі, а ня зьмена пакаленьняў. Тая старэйшая эміграцыя не стварыла новага пакаленьня, ёсьць толькі адзінкі, якія ўліліся ў беларускую эміграцыйную дзейнасьць. А новая хваля беларускай эміграцыі, яна мае станоўчы момант – гэта адукацыйны, але яна не валодае ў дастатковай ступені той сьведамасьцю, якой валодала эміграцыя пасьляваенная, ня мае таго вопыту палітычнага змаганьня, ня мае яшчэ дастаткова арганізацыяў, і яна ня мае сацыяльнага статусу, вымушана працаваць з ранку да вечара, каб зарабляць на хлеб. Ад таго, як новая эміграцыя засьведчыць сябе, як яна знойдзе сваё месца ў гэтай барацьбе за Беларусь, будзе залежаць і будучыня Беларусі, можа залежаць. І да гэтага трэба быць гатовым.

**– А што, на Вашу думку, трэба рабіць дзеля гэтага, якой Вам як палітыку хацелася б бачыць новую эміграцыю, яе ролю ў агульнанацыянальным працэсе?**

**Пазьняк:** Тут істотна, найперш, бачыць, што гэта за эміграцыя, што гэта за людзі.

Эміграцыя – гэта структураваная супольнасьць, якая мае жывую сувязь з Бацькаўшчынаю, з ідэямі Бацькаўшчыны і сваю дзейнасьць прысьвячае інтарэсам сваёй Айчыны. Калі гэтага ня будзе, тады гэта не эміграцыя, гэта проста выпадковыя людзі, якія зьехалі, каб палепшыць сваё матэрыяльнае жыцьцё, якія, фактычна, кінулі Бацькаўшчыну. Эміграцыя – гэта тая, якая Бацькаўшчыну ня кінула, якая і ў трэцім пакаленьні гэтую Бацькаўшчыну памятае.

Цяперашняя эміграцыя ў асноўным прагматычная і эканамічная. Палітычнай эміграцыі вельмі мала, я маю на ўвазе тых асобаў, якія займаліся палітыкай і ня маюць магчымасьці вярнуцца на Бацькаўшчыну. Вось такой эміграцыі няшмат, а пасьляваенная эміграцыя была ўся такая.

Я хацеў бы сказаць пра тыя каштоўнасьці, якія неабходныя для беларускай эміграцыі, каб яна была карыснаю для сваёй Айчыны. Неабходна мець у душы і ў сьвядомасьці чатыры ўмовы – гэта нацыянальная ідэя, беларуская мова, нацыянальная салідарнасьць і сувязь з Бацькаўшчынаю. Калі ня будзе ў беларускім эміграцыйным грамадзтве ўсьведамленьня гэтых чатырох каштоўнасьцяў, то эміграцыя проста не адбудзецца як сіла, яна нічога ня зробіць для Бацькаўшчыны, проста растворыцца ў першым пакаленьні.

**– Пэўна, што для новай эміграцыі будзе важна яднацца арганізацыйна?**

**Пазьняк:** Эміграцыя павінна ўтвараць свае арганізацыі, і ня толькі культурныя, павінны быць арганізацыі палітычныя. Вельмі істотна, каб тыя людзі, якія маюць хаця мінімальны палітычны вопыт, якія стаяць на пазыцыях 25 Сакавіка, каб яны маглі закласьці новыя арганізацыі. Беларусы, якія апынуліся за мяжою, павінны праяўляць салідарнасьць, падтрымліваць гэтыя палітычныя арганізацыі, нават калі яны туды не ўваходзяць – словам, справаю і матэрыяльна.

Важна разумець – дзеля чаго гэта неабходна. Цяпер беларуская эміграцыя можа лабіраваць незалежнасьць і свабоду Беларусі на Захадзе. Маючы палітычныя арганізацыі, яна можа шукаць дапамогі, шукаць сяброў у сьвеце для вольнай Беларусі праз уплывы на палітычныя структуры, праз палітычную дзейнасьць.

Трэба ўлічыць, што нават калі адбудзецца самае горшае, калі мы, ня дай, Божа, страцім незалежнасьць, то калі будзе моцная эміграцыя, калі яна будзе мець палітычныя арганізацыі, калі яна будзе арганізаваная і салідарная па ўсім сьвеце, яна можа выйграць гэтую вайну за вольную Беларусь.

Відавочна, што перад новай беларускай эміграцыяй стаяць тыя ж самыя задачы, што стаялі перад старэйшай эміграцыяй – захаваць беларускую ідэю і працаваць дзеля яе ажыцьцяўленьня на Бацькаўшчыне, каб Беларусь урэшце стала дэмакратычнай незалежнай дзяржаваю.

**Ганна СУРМАЧ,**
*Радыё Свабода*

# Гулкі звон клінка...

***Сучасны чалавек атаясамлівае росквіт фехтавальнага майстэрства з эпохай рыцарства і мушкецёраў. Насамрэч фехтаванне з'яўляецца адным з самых старажытных відаў спорту. Як від спорту яно на добрыя чатыры стагоддзі апярэдзіла Алімпійскія гульні. Да нядаўняга часу беларускія фехтавальшчыкі былі небяспечнымі канкурэнтамі каманд самых моцных «фехтавальных» краінаў. На працягу дзесяцігоддзяў нашы шаблісты і шпажысты вызначыліся на Алімпійскіх гульнях, імёны Германа Бокуна, Таццяны Самусенка, Аляксандра Паўлоўскага, Алены Бяловай, Віктара Сідзяка, Аляксандра Раманькова, Барыса Карэцкага, Сяргея Расолькі ўвасабляюць росквіт беларускага фехтавання, служаць гонару нашага спорту.***

***Якое месца сёння сярод іншых відаў спорту займае фехтаванне на Беларусі, распавядае намеснік старшыні Грамадскага аб'яднання Беларускай рэспубліканскай федэрацыі фехтавання, галоўны трэнер зборнай Беларусі па гэтым відзе спорту, двухразовы пераможца Чэмпіяната свету па шаблі Сяргей Прыходзька.***

**– Сяргей Якаўлевіч, ці маюць адметнасці ў тэхніцы і тактыцы нашы фехтавальшчыкі перад французскімі, італьянскімі ці, да прыкладу, перад расейскімі?**

– «Фундамент» хутка не зменіш, таму ён у нашым фехтаванні яшчэ «савецкі». У многім дзякуючы той асноўнай групе трэнераў, якая склалася яшчэ за савецкім часам і якая працуе сёння. Але нейкіх яскравых адрозненняў паміж беларускай, італьянскай, французскай, рускай школамі я не бачу. Мы жывём у адзінай, гэтак мовіць, фехтавальнай прасторы. А фехтаванне, як ніколі раней, сёння хутка развіваецца, і, калі чалавек жадае рухацца наперад, ён адбірае лепшае з лепшага. Са зменай правілаў спаборніцтваў змяняецца і абсталяванне, і тэхніка спартсмена.



**– У сувязі з чым мяняюцца правілы спаборніцтваў?**

– Не толькі фехтаванне, але ўсе віды спорту сёння ідуць па шляху камерцыялізацыі. Камерцыялізацыя – гэта, у першую чаргу, відовішчнасць, а відовішчнасць абавязкова павінна быць зразумелай і цікавай. Усё ідзе да таго, каб нават непадрыхтаваны глядач мог самастойна разбірацца ў тым, што адбываецца на фехтавальнай дарожцы.

**– Калі і якімі былі апошнія нававодзіны?**

– Раз у чатыры гады значныя змены адбываюцца ў спартыўным інвентары і правілах спаборніцтваў. Раней, напрыклад, шабля не мела электрычнай фіксацыі удару ці ўколу. У гэтым відзе забаранілі таксама рабіць атакуфлеш (атака кідком): спартсмен не можа бегчы ў атаку, ён мусіць рухацца крокамі. Перастала таксама запаляцца святло: апарат ужо ніяк не фіксуе, калі колюць ніжэй дазволенага для паражэння ўчастка. Для рапіры святло пакуль пакінулі. Але не так даўно мы былі на кангрэсе Міжнароднай федэрацыі, дзе якраз абмяркоўвалася пытанне, пакінуць ці прыбраць белае святло і ў гэтым відзе фехтавання. Памяншаецца час для фіксацыі ўколу. Гэта значыць, што калі я вас трошкі раней укалоў, а вы мяне – пазней, запаліцца адно святло.

**– Фехтаванне мае падзел на тры віды: шаблю, рапіру і шпагу - які з гэтых відаў спартыўнай зброі найбольш папулярны?**

– Папулярнасць заўсёды звязана з большай лёгкасцю і меншымі высілкамі ў навучанні. Такія віды, як шабля і рапіра, патрабуюць вельмі грунтоўнай падрыхтоўкі. Шпажысту ж важней нанесці ўкол. Таму шпага найбольш распаўсюджаны від фехтавання.

**– А ці можна быць адначасова і шпажыстам, і рапірыстам?**

– Калісьці гэта была рэальная з'ява. У нас былі чэмпіёны Алімпійскіх гульняў і па рапіры, і па шпазе. Але сёння, каб дасягнуць добрых вынікаў, немагчыма быць занятым у двух відах фехтавання. Гэта абсалютна розныя віды зброі. Шпажыст не фехтуе на рапіры, яна для яго занадта лёгкая, і наадварот, шпага пазбаўляе рапірыста віртуознасці. Паміж імі такая розніца, як, прыкладам, паміж самбістам і дзюдаістам. А каб паказаць высокі вынік, спецыялізацыю пачынаюць яшчэ з самага дзяцінства.

**– Якое значэнне мае ўзрост спартсмена ў гэтым відзе спорту?**

– Сёння мы, нарэшце, зразумелі, што ўсё залежыць не ад узросту. Былі такія часы, калі ўзрост, сапраўды, лічыўся вызначальным. Зараз важна, як чалавек фехтуе, наколькі ён здольны. Добры ўзровень падрыхтоўкі можна мець і ў шаснаццаць гадоў, і ў сорак пяць. Я ведаю тых, што выступаюць у пяцьдзесят. Звычайна прафесійны ўзрост – ад дваццаці да сарака.

**– Колькі ўсяго на Беларусі спартсменаў-фехтавальшчыкаў?**

– Афіцыйна 1.615 чалавек.

**– Гэта не надта многа ў параўнанні з часамі (з 1960-х па 1992-гі), калі фехтаванне Беларусі прыносіла 50-60 працэнтаў усіх алімпійскіх медалёў...**

– Але не колькасць спартсменаў вызначае перамогі, а якасць працы трэнераў і тэхнічнае забеспячэнне школ. Вы ўяўляеце сабе, што такое фехтаванне? Напрыклад, фехтавальная дарожка каштуе прыблізна пяць з паловай тысяч даляраў, апаратура разам з катушкамі яшчэ тысячу дзвесце. Каб маленькага спартсмена адзець нават у самую танную форму, якая, дарэчы, не вырабляецца ў Беларусі, бацькі павінны са сваёй кішэні дастаць не менш трохсот даляраў. Калі гэта спартсмен нацыянальнай каманды, неабходна хаця б паўтары тысячы, і гэта толькі на вопратку. А яшчэ зброя. Даходзіць да таго, што некаторыя за свае грошы купляюць клінкі. Фехтаванне - адзін з дарагіх відаў спорту. Канешне, біятлон не дзешавейшы. Але ў сённяшніх эканамічных умовах фехтавальныя школы вядуць жабрацкі чын жыцця. Я ўжо не кажу пра нацыянальную каманду. Яна знаходзіцца не ў лепшым стане. У нас няма нават сваёй залі. Трэніруемся ў дынамаўскай, ведамаснай, якая па сваіх санітарна-гігіенічных нормах даўно не адпавядае элементарным патрабаванням падрыхтоўкі нацыянальнай зборнай, не гаворачы ўжо пра тое, што ў гэтай залі рыхтуюцца прызёры свету, Еўропы, а ёсць патрабаванні падрыхтаваць прызёраў Алімпійскіх гульняў. І ці магчыма на прутках, або даўшы адзін клінок і маску на дзесяць чалавек, навучыць фехтаваць на добрым узроўні? Гэта немагчыма. Ніякі геніяльны трэнер гэтага зрабіць не зможа.

**– Але ў падобным стане апынулася сёння не адно фехтаванне. Лягчэй, хіба толькі, хакею ды футболу.**

– Пра хакей, футбол і біятлон гаворка асобная. Я паважаю іх выступленні, але футбол – гэта не від спорту, гэта від камерцыйнай дзейнасці. Там клубныя адносіны, іншая сістэма, паступленні з Міжнароднай федэрацыі. Вялікія грошы нават за непаспяховыя выступленні. Мы ж нічога ні ад каго не атрымліваем: з Міжнароднай федэрацыі не маем ніводнай капейкі, выжываем коштам унутраных рэзерваў. Трэнеры, якія шмат паспыталі, навучыліся жыць і круціцца - тое адзінае, што нас ратоўвае. А іх з кожным годам усё менш.

**– Сяргей Якаўлевіч, як растлумачыць гэтую тэндэнцыю?**

– Упаў прэстыж трэнерскай працы. З заробкам у сто дзесяць тысяч (гэта стаўка) было б дзіўна, калі б гэтага не адбылося. Сыходзяць у першую чаргу мужчыны.

**– Куды?**

– У больш прэстыжныя месцы, у школы выкладчыкамі фізкультуры – усё ж заробак там большы. Многія з'язджаюць за мяжу, удзельнічаюць там у шоу. Сярод трэнераў, якія працуюць на нацыянальную зборную (119 чалавек), 75 адсоткаў складаюць жанчыны. Мяне як галоўнага трэнера гэта не радуе: жанчына можа «выхоўваць» спартсмена толькі да пэўнага моманту.

**– Атрымліваецца, што жанчыны большыя патрыёткі сваёй справы?**

– У нашай краіне жанчына знаходзіцца ў горшым сацыяльным становішчы, таму яна вымушана згаджаецца ісці на тыя матэрыяльныя і іншыя ўмовы, на якія мужчына не заўсёды пойдзе. Або, хто сёння пастаўляе юніёраў у зборную каманду Беларусі? Брэсцкая і Магілёўская вобласці. Чэмпіён свету сярод юнакоў – берасцеяц. Срэбны чэмпіён Чэмпіяната Еўропы мінулага года - берасцеец. У камандзе, якая заняла 6-е месца на Еўрапейскім турніры, два магіляўчаніна і адзін берасцеец. Зноў жа, на перыферыі меншыя магчымасці, таму людзі працуюць, і працуюць добра, за капейкі.

**– У сваім інтэрв'ю газеце «ПрэсБол» Віктар Сідзяк (Алімпійскі чэмпіён 1968, 1972, 1976, 1980 гадоў) паведаміў, што збіраецца адкрыць прыватны клуб па фехтаванні. На колькі гэта характэрна для Беларусі?**

– Гэта толькі мары. У нашых умовах здзейсніць іх пакуль не рэальна. Сідзяк збіраецца адчыніць прыватны клуб ужо дзесяць гадоў. Прыватны клуб павінен існаваць за кошт платы. Яе павінна хапаць на арэнду, абсталяванне, заробак трэнераў і іншае. Хто, скажыце, на Беларусі (гэта ж не Італія, дзе Сідзяк працаваў восем гадоў) зможа плаціць за фехтавальнае захапленне сына ці дачкі вялікія грошы? Наконт заробкаў трэнераў у прыватных клубах. Аляксандр Раманькоў (Алімпійскі чэмпіён 1976, 1980 і 1988 гадоў) ужо год працуе ў Амерыцы. Яму прапаноўвалі тут і пасаду прэзеідэнта федэрацыі, і галоўнага трэнера, але ён адмовіўся. Таму што на сёння Аляксандр Раманькоў за дваццаць хвілінаў урока атрымлівае дваццаць пяць даляраў.

Дарэчы, у сваім інтэрв'ю Віктар Сідзяк заўважыў і такую цікавую рэч. Нягледзячы на тое, што ў Італіі 268 клубаў (у Францыі іх не менш), амаль у кожным гарадку яны ёсць, беларускія спартсмены сваім калегам амаль не саступаюць. Давайце возьмем апошні Чэмпіянат Еўропы сярод юніёраў. Наш шабліст заняў другое месца. Італьянцаў у прызёрах не было. Ва ўпартай барацьбе нашы прайгралі італьянцам за 5–6-е месцы. Мы абышлі расіянаў. З іх ніхто не ўвайшоў у тройку. І гэта з гіганцкай Расіі, дзе унікальная каманда шаблістаў. Юніёры ж выступілі ў іх дрэнна. Каб нам пратрымацца на гэтым узроўні яшчэ многія гады наперад.

**– Шчыра вам гэтага жадаю.**

**Алеся МАТУСЕВІЧ**



# Мабільнік...

***Калі яшчэ зусім нядаўна пабачыць беларуса з сотавым тэлефонам было рэдкасцю, а мабільнік каля вуха – гэта быў нават пэўны шык, то цяпер гэтую цацку маюць, як кажуць, і жук, і жаба. Сотавік перастаў быць прадметам раскошы, а ператварыўся ў звыклы сродак камунікацыяў. Сёння кожны дзесяты беларус «мабільны».***

Між тым прагназуецца, што цягам аднаго 2004 года ўладальнікаў мабільных тэлефонаў у нашай краіне паболее праблізна ўдвая - да 2 мільёнаў чалавек. І гэта абсалютна рэальны прагноз, таму што за 2003 год колькасць абанентаў сотавай сувязі ў Беларусі ўзрасла ў 2,4 раза. На пачатак 2003 года ўладальнікамі мабільнікаў былі 470 тысяч чалавек, цяпер іх мільён 100 тысяч. У першага аператара стандарту GSM кампаніі Velcom – 620 тысяч абанентаў (рост за год – 1,5 раза), у другога аператара гэтага ж стандарта МТС – 452 тысячы (іх колькасць павялічылася ажно ў 10 разоў), нарэшце, абаненцкая база фірмы «БелСел» за мінулы год не змянілася і засталася ў межах 20 тысяч чалавек. Пры гэтым кліенты гэтай кампаніі пераходзілі ад выкарыстання сувязі аналагавага стандарту NMT-450 да лічбавага cdma2000. На пачатку года працэнтныя суадносіны колькасці ўсіх трох аператараў былі такія: Velcom – 87%, МТС – 9%, «БелСел» – 4%. Цяпер – адпаведна 57%, 41% і 2%.

А яшчэ кажуць, што наш народ бедна жыве!

Відаць, гэта адначасна і вынік моды на мабільнікі («у суседа ёсць, мусіць быць і ў мяне»), і інтэнсіўнай рэкламы аператараў сотавай сувязі. Хаця галоўнае, відаць, у тым, што гэта проста зручна – увесь час мець пад рукой тэлефон. Дый не так ужо і дорага абыходзіцца гэты самы сотавік, калі палічыць.

Ужо былы ў эксплуатацыі апарат можна набыць нават за 30 даляраў, новы каштуе ў залежнасці ад мадэлі – ад 75 і вышэй. Але «крутая» мадэль – гэта ўжо больш справа прэстыжу, бо галоўнае, каб тэлефон папросту званіў, ці не праўда? Калі няма такіх грошай вось тут і цяпер, многія крамы па продажу сотавых тэлефонаў і аксэсуараў прапаноўваюць набыць іх у крэдыт.

Тарыфы на сотавую сувязь таксама не такія ўжо і высокія, хаця ў параўнанні з іншымі больш «мабільнымі» краінамі ў Беларусі яны ўсё-такі задарагія. Штомесяц, калі вы адносна няшмат гаворыце па мабільным тэлефоне, за размовы давядзецца плаціць 15–30 тысяч рублёў. У сярэднім жа за размовы па сотавым тэлефоне беларусы плацяць кожны месяц каля 50 тысяч рублёў. Зрэшты, для многіх гэта досыць адчувальная сума, але цэлы мільён беларусаў траціцца на гэтыя паслугі.

Самыя танныя кошты ў кампаніі МТС – 30 рублёў за хвіліну размоваў. Прычым яны нязменныя вось ужо доўгі час і нават таннеюць, калі ўлічыць інфляцыю. У Velcom – у некалькі разоў даражэйшыя тарыфы, аднак жа пры падключэнні да яго вы атрымаеце куды лепшую якасць сувязі, чымсьці ў МТС. Напрыклад, асабіста я ўсё часцей задумваюся, каб перайсці ад МТС да Velcom, які пакрыў сваёй сувяззю значна большую тэрыторыі нашай краіны. Вось на леціішчы ў мяне, што знаходзіцца на адлегласці 40 кіламетраў ад Мінска, тэлефоны, падключаныя да Velcom працуюць, а МТСныя – не. Мой тэлефон нават у сталіцы ў некаторых месцах не бярэ. Прыкладам, як назло, дома. У адным пакоі ёсць сувязь, у другім – няма зусім ці ёсць са збоямі. Тая самая гісторыя ў доме, дзе жывуць мае бацькі, зусім на іншым краі Мінска. І хаця хвіліна размоваў каштуе ўсяго 30 рублёў, сувязь часта абрываецца, і даводзіцца перазваньваць – у выніку кошт хвіліны можа ўзрастаць да Velcomаўскага. Але прыбаўце сюды нервы, якія не вытрымліваюць і расхістваюцца, калі сувязь раптам знікае і знікае.

Таму абсалютна слушна робіць беларускі ўрад, вылучаючы ў якасці ўмовы для пачатку працы трэцяга аператара стандарту GSM у Беларусі папярэдняе пакрыццё ім сотавай сувяззю 60 працэнтаў тэрыторыі краіны. Дарэчы, гэты самы трэці аператар мусіць быць вызначаны ў выніку правядзення адмысловага тэндэара ўжо сёлетняй восенню. Свае паслугі сувязі ён зможа пачаць прадастаўляць у пачатку 2005 года.

З'яўленне новага аператара сотавай сувязі ў Беларусі ўладальнікі мабільнікаў могуць толькі вітаць. Гэта ўзмацніць канкурэнцыю, што пацягне за сабой зніжэнне тарыфаў. Дарэчы, калі кошты ва ўсіх беларускіх аператараў сувязі падраўняюцца, менавіта дадатковыя паслугі стануць галоўным інструментам па прыцягненні новых абанентаў.




## Мабільнікі псуюць нервы

Так, мабільны тэлефон – гэта зручна. Але ёсць у гэтай прыладзе і мінусы. Прыкладам, праз яе чалавек удаецца ў залежнасць.

Гэткая ж залежнасць як і ад мабільніка вельмі хутка ўтвараецца ў тых, хто ходзіць у інтэрнет. Для зацятых інтэрнетчыкаў псіхолагі нават прыдумалі такі тэрмін, як вебаманія. Без сумневу, ёсць і сотаманія. Прыкладам, згубіць чалавек свой мабільны тэлефон – і яму становіцца дужа млосна. Праз колькі дзён, а то і гадзін бяжыць новы сотавік купляць. Многія неадэкватна рэагуюць на вонкавыя сігналы, падобныя да мелодыі пра званку на іхні мабільны тэлефон. Ім здаецца, што ім тэлефануюць і лезуць даставаць сваю перанасную слухаўку.

Летась гарадскія ўлады Нью-Йорка афіцыйна забаранілі карыстацца сотавымі тэлефонамі ва ўстановах культуры. Наведвальнікі канцэртаў, тэатраў і чытальных залаў мусяць перад уваходам сюды адключаць свае апараты. Штраф – 50 даляраў. Забарона ўведзеная, па-першае, для спакою людзей, а па-другое, каб мабільнікі не заміналі працы радыёапаратуры і мікрафонаў падчас тых жа спектакляў.

***

Нядаўна Міжведамасная камісія па барацьбе са злачыннасцю, карупцыяй і наркаманіяй пры Радзе бяспекі Беларусі прыняла рашэнне, паводле якога Міністэрства сувязі возьме пад сталы пільны кантроль мабільнікі беларусаў – дзеля пошуку скрадзеных апаратаў і папярэджання новых крадзяжоў. У Мінску, напрыклад, гэта кожнае чацвёртае злачынства. Разам з тым гэтая ініцыятыва дазволіць праз сотавы тэлефон сачыць за чалавекам. Запеленгаваць ягонае месца знаходжання элементарна, як і атрымаць інфармацыю, каму ён звоніць і хто звоніць яму. Хаця, натуральна, пра такія мэты ніхто публічна не кажа.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Тэхналогіі

### Мікрачып замест крэдытнай карты

Амерыканскія распрацоўшчыкі імплантуемых чыпаў прапануюць раз і назаўжды пазбавіцца ад неабходнасці мець пры сабе партманэ – наяўныя грошы ці крэдытную картку заменіць радыёметка памерам з зерне, ушытая пад скуру на руцэ.

Практыка ўжыўлення радыеметак людзям у ЗША існуе ўжо не першы год, дазволілі іх і ў Мексіцы: кампанія Applied Digital Solutions (ADS) яшчэ ўвесну 2002 года атрымала магчымасць прадаваць мікрачыпы пад кодавай назвай VeriChip, якія ўжыўляюцца чалавеку і ўтрымоўваюць яго ідэнтыфікацыйны код. Ён можа быць звязаны з базай дадзеных, у якой знаходзіцца любая інфармацыя, у тым ліку і медыцынскія дадзеныя.

Для мноства сем'яў, дзе ёсць цяжка хворыя людзі (дзеці, якія пакутуюць на аўтызм, дзіцячы цэрэбральны параліч ці сіндром Даўна, старыя з сіндромам Альцгеймера), такі чып – гэта магчымасць своечасова атрымаць медыцынскую дапамогу, знайсці чалавека, які згубіўся, пакуль ён не патрапіў у бяду. З 2002 года VeriChip ужывілі сабе болей за 30 чалавек.

Актывіваны радыёсканерам чып памерам 12 мм на 2,1 мм дасылае свой сігнал з-пад скуры чалавека, перадаючы захаваныя на ім звесткі. Сам па сабе чып зможа імплантаваць любы доктар пад мясцовай анестэзіяй з дапамогай прыбора, які нагадвае вялікі шпрыц, прычым на месца ўжыўлення не трэба накладваць швы. Звычайна мікрачып ушываецца ў вобласць трыцэпса паміж локцем і плячом правай рукі. Працэдура ўжыўлення чыпа займае ўсяго некалькі хвілін. Убачыць ужыўлены чып няўзброеным вокам немагчыма.

**RBC.ru**

## Сабачыя правы

### Сабакам прыдзецца дысцыплінавацца



У Польшчы за выгул сабакі без намордніка ці за парушэнне сабакам цішыні ноччу цяпер будуць браць штраф з гаспадара ў памеры 200 злотых (50 даляраў). Новы тарыфікатар штрафаў пачаў дзейнічаць перад Новым годам.

Усяго ў тарыфікатары змешчана 59 правапарушэнняў, за якія гарадскія стражнікі (муніцыпальная паліцыя) мае права штрафаваць грамадзян. За дзеянні, якія выклікаюць абурэнне ці шакіруюць грамадзянаў на вуліцы, можна заплаціць штраф 40 даляраў, а за непрыбраны снег на падведамаснай тэрыторыі (напрыклад, каля прыватнага магазіна ці жылля) штраф складае 25 даляраў. Такім чынам, сабака без намордніка выклікае большае абурэнне грамадзянаў, чым п'яны хам, які брудна лаецца, ці чалавек, які выйшаў на шпацыр голы.

Услед за Польшчай Маскоўская гарадская дума прыняла за аснову законапраект «Аб жывёлах», які ўтрымлівае шырокі дыяпазон штрафаў. Маскоўскія штрафы таксама не літасцівыя. Брэх любімага пса ў кватэры, які чутны суседзям, можа каштаваць гаспадару пакараннем да 500 рублёў (каля 18 даляраў). Ад 100 да 2.000 рублёў будзе складаць штраф за прагулянкі сабакі па дзіцячых пляцоўках, у дварах школ і шпіталяў. Нецвярозыя грамадзяне наогул пазбаўлены права выводзіць на шпацыр сваіх «малодшых братоў», калі тыя важаць болей за 15 кілаграмаў. Гаспадарам сабак пагражае штраф да 500 рублёў за працяглае ці пастаяннае ўтрыманне хатніх жывёл у транспартных сродках. Вялізны штраф прыйдзецца плаціць і тым, каго западозраць у абмежаванні патрэбы сабак і катоў у ежы, адпачынку, натуральнай актыўнасці. Таксама плануецца забараніць выкарыстанне катоў і сабак з мэтай атрымання мяса і футра. За гэта можа быць прысуджаны штраф да 30.000 рублёў (каля 1.000 даляраў).

## Вікінгі апладнілі палову свету

Датчане выйшлі на першае месца ў свеце па экспарту спермы. На думку экспертаў, нацыянальны генафонд распаўсюджваецца па свеце з імклівай хуткасцю. Штогод праз пасярэдніцтва кампаніі Cryos International мужчыны з Даніі становяцца бацькамі прыкладна тысячы «народжаных з прабіркі» дзяцей у розных краінах.

Тысячы маладых датчанаў, у асноўным студэнтаў, прыходзяць у тры дацкія донарскія цэнтры Cryos. За кожнае «ахвяраванне» яны атрымоўваюць каля 40 даляраў. Аднак у цэлым толькі 10 адсоткаў усёй здадзенай спермы мае дастаткова высокую якасць, каб медыкі маглі яе скарыстаць у якасці донарскай.

Цяпер кампанія падае біялагічны матэрыял бяздзетным парам прыкладна ад 250 донараў пад псеўдаімёнамі вікінгаў – Бірк, Горм, Алаф, Тор.

На сперму светлавалосых і блакітнавокіх скандынаўскіх мужчын вялікі попыт, таму Cryos экспартуе яе ў 40 краінаў свету. Кіраўнік Cryos Оле Шоу тлумачыць поспех краіны, у якой жыве ўсяго 5,3 мільёна жыхароў, тым, што ў Даніі высока ацэньваецца сацыяльнае значэнне спермадонарства. Гэта датычыць і іншых скандынаўскіх краінаў, так траціна ўсёй вытворчасці донарскай спермы прыпадае менавіта на гэты рэгіён. Хоць у апошні час гэтае лідэрства знаходзіцца пад пагрозай з-за забароны на ананімнасць спермадонарства, якая ўводзіцца ў шмат якіх краінах. Закон ужо дзейнічае ў Швецыі і Нарвегіі, аналагічны закон разглядаецца ў Фінляндыі. Па ацэнках Cryos, забарона на ананімнасць пужае да 12 адсоткаў усіх магчымых спермадонараў і толькі 8 адсоткаў з іх гатовыя паведаць нашчадкам сваё імя.

**Яўгенія МАЛЯР**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288-23-52

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія ЛП № 397 ад 14.03.2001 г.
220004, Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Замова № 42
Падпісана да друку 16.01.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.